ЗЯНОН

П'ЕСЫ

# ГРААЛЬ



ГРААЛЬ • ПАВЕЛ • КВЕТКА ШЧАСЬЦЯ

ВАРШАВА «БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ» 2023 г.

# Г Р А А Л Ь

*(Містэрыя ў 5 сцэнах для падлеткаў і юнацтва дзеля пастаноўкі і чытаньня.)*

## Асобы

1. В а с і л ь Я ў г е н а в і ч Д а б р ы н е ў с к і – 40 гадоў, настаўнік, фізікі.
2. Н а с т а с я М і к а л а е ў н а Д а б р ы н е ў с к а я – 37 гадоў, яго жонка, настаўніца беларускай мовы.
3. А н д р э й к а – 13 гадоў, іхны сын
4. П я т р у с ь – 13 гадоў, суседзкі хлопчык
5. К а с т у с ь – 13 гадоў, суседзкі хлопчык
6. М а ё р м і л і ц ы і
7. 1-ы а м о н а в е ц
8. 2 – г і а м о н а в е ц
9. 3 – ц і а м о н а в е ц
10. С т а р ы ч а л а в е к
11. Б а б а Ю г а – гаспадыня ведзьмаў і цёмнай сілы
12. В у р д а л а к і
13. 1 – я в е д з ь м а

14. 2 – я в е д з ь м а

15. М а л а н ь н я

16. 1 – ы р ы ц а р в а р т ы М і р у

17. 2 – г і р ы ц а р в а р т ы М і р у

18. Ж ы х а р з т э л е ф о н а м

19. Д з я ў ч ы н а з т э л е ф о н а м

# С Ц Э Н А 1

(Ліпень, 2023 год. Дзеецца ў вялікім горадзе ў Беларусі.
Сьвяточны стол у хаце Дабрынеўскіх. Гарбата, торт. За сталом
Васіль Яўгенавіч, Настася Мікалаеўна, Андрэйка, Пятрусь, Кастусь.)

В а с і л ь Д а б р ы н е ў с к і: – Ну, сынок, сёньня табе споўнілася 13 гадоў. Ты ўжо дарослы хлопчык. Тата і мама ўжо будуць раіцца з табой. і наша суседка, цётка Фрума, ужо будзе інакш гаварыць з табой. От паглядзіш.

А н д р э й к а: – А як будзе гаварыць?

Н а с т а с я Д а б р ы н е ў с к а я: – Хлопчыкі, бярыце во торцік і частуйцеся. Налівайце гарбату. Потым будзе яшчэ марозіва.

В а с і л ь Д а б р ы н е ў с к і: – А гэтак скажа: «Уй, Андрэйка, павітайся з цёцяй Фрумай, ты ўжо дарослы хлопчык.»

А н д р э й к а: – Я ўвесь час вітаюся з цёцяй Фрумай.

Н а с т а с я Д а б р ы н е ў с к а я *(сьмяецца)*: – Дык гэта ж ты малы вітаўся, а цяпер будзеш як дарослы. *(Да мужа)* – Дык ты ж скажы яму пра Фруму.

В а с і л ь  Д а б р ы н е ў с к і: – У жыдоў, Андрэйка, калі хлопчыку 13 гадкоў, дык яго адзначаюць як дарослага. і вось цётка Фрума кажа нам: „Скажыце яму, што ён дарослы.” Мы, беларусы, не жыды, але кажам табе, што ты ўжо вырас. То ці добра табе?

А н д р э й к а: – Калі па-праўдзе, тата, то які ж я дарослы? Але я буду старацца стаць дарослым.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Ну, вось і добра, хлопчыкі, што сябруеце. Радуйцеся. Бо дарослым жыць ня проста.

П я т р у с ь: – Але дарослым усё можна і ўсюды пускаюць.

К а с т у с ь: – Гэта, відаць, некалі было, Пятрусёк. Цяперака – як дарослы, дык у турму.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Ціха, Кастусёк, не гавары пра тое, за што садзяць.

В а с і л ь  Д а б р ы н е ў с к і: – Хлопцы, дарослы – гэта той, хто адказвае за свае словы і за свае справы.

А н д р э й к а: – Але, тата, як паглядзіш, дык у нас цяпер усіх садзяць за добрыя словы і за добрыя справы, а за дрэнь ніхто не адказвае і нікога ня садзяць.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Андрэйка, зьменім тэму.

В а с і л ь  Д а б р ы н е ў с к і: – Дык вось, са злом мірыцца нельга. Але змагацца трэба з розумам. От тут мы з мамай табе падрыхтавалі тое, што ты хацеў. Гэта табе падарунак – кішэннае выданьне „Парсіваля” па-беларуску. *(Перадае кніжыцу сыну.)*

А н д р э й к а: – О-о... Здорава! Арыгінал. Я ўжо пяць разоў чытаў у Інтэрнэце, а тут сапраўдная кніжка! Дзякуй, тата з мамай. Мы

з хлопцамі шмат гаварылі пра Парсіваля. і ведаеце што... мы ж дарослыя ўжо, праўда?

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Праўда, сынок, праўда, ты ўжо вялікі.

А н д р э й к а: – Дык вось .., каб гэта нас адпусьцілі, значыцца. Бо мы, гэты во ... тут у трох, ну ... хацелі б паехаць у Мір шукаць Грааль.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Грааль? У Мір?

А н д р э й к а: – Ну, так, у Мір. Ён жа ў Мірскім замку схаваны.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Як гэта, схаваны?

А н д р э й к а: – Дык жа напісана. Можа, мама забылася. Во, гляньце, во тут пад фотам Мірскага замка напісана *(чытае з кніжкі):* – Сьветлы замак (цэнтар спакою, копія замку Монтсальвач), у якім, згодна легенды, апошні нашчадак Парсіваля замураваў Грааль. Зарок сцьвярджае, што ніхто ніколі ня знойдзе яго, хто захоча знайсьці. Грааль адчыніцца выпадкова чалавеку, якога пакліча Бог. Адкрыцьцё Грааля павінна папярэднічаць значным падзеям для ўсіх людзей.”

*(Паўза. Бацькі пераглядваюцца.)*

В а с і л ь  Д а б р ы н е ў с к і: – Вось табе і на!

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Да Міра ад нас каля двухсот кілёмэтраў будзе. Ехаць з перасадкамі. Ня жартачкі.

А н д р э й к а: – Ну і што? Мы ж ня дзеці, дамо рады.

Н а с т а с я  Д а б р ы н е ў с к а я: – Справа сур’ёзная. Можа, лепш пачакаць, калі гадкоў 18 стукне. Тады вы будзеце дужымі

мужчынамі і ніякія ворагі, што супраць Грааля, вам ні па чым. Ну, нельга ж ня здолець, а? Як вы?

К а с т у с ь: – А мы, Настася Мікалаеўна, з Пятрусём пры Доме прафсаюзаў у сэкцыю каратэ запісаліся.

Н а с т а с я   Д а б р ы н е ў с к а я: – *(сур’ёзна)*: – А калі чэрці нападуць?

А н д р э й к а: – А мы чарцей не баімся. Ім так: „У Імя Айца і Сына і Духа Сьвятога – Аман!” і чэрці ўцякуць.

В а с і л ь   Д а б р ы н е ў с к і: – *(у тон жонцы)*: – З чарцямі вы ўправіцеся. Але слухайце. Па Грааль ня едуць аўтобусам. Вы ж не турысты. Трэба пешшу ісьці альбо конна ехаць на чырвоных конях. Прытым не па дарозе, а напрасткі, па азімуту. Гэта сходу не атрымаецца. Трэба павучыцца, падрыхтавацца, сілы набрацца. Парсіваль жа таксама не адразу шукаў Грааль, але як узрос і сілы набраўся, ды рыцарам стаў.

*(Чуецца доўгі званок і адразу гучны стук у дзьверы.)*

Г о л а с: – Откройте! Милиция. Немедленно! Высадим дверь! Быстро!

*(Васіль Дабрынеўскі ідзе і адчыняе дзьверы. Дзьверы з ляскам адчыняюцца, і ў хату ўлятае чатырох міліцыянераў-амонаўцаў з аўтаматамі.)*

М а ё р: – Ложись, падла! Всем лежать, дряні!

*(Міліцыянеры б’юць дубінай Васіля Дабрынеўскага, валяць яго на падлогу тварам уніз.)*

Н а с т а с я   Д а б р ы н е ў с к а я: – Вы што! Вы што гэта робіце! Вы хто? Вон з хаты! Прэч пайшлі!

М а ё р *(хапае Настасю Мікалаеўну за валасы)*: – А ты, атребье, ложись, мля, шчас отработаю дубинкой, мля! Ложись! *(Валіць на падлогу.)*

А н д р э й к а: – Ня руш маму, мент!

*(Кідаецца на маёра і з разьбегу б'е галавой у жывот. Маёр падае. 1-ы амонавец хапае Андрэйку і бразгае аб сьцяну.)*

2 – г і  а м о н а в е ц: – *(да Кастуся і Пятруся):* – А вы, сопляки, ложись! Сказал! Вы, фашисты, мля!

*(Амонаўцы кідаюць хлопцаў на падлогу.)*

М а ё р: – Лежать всем! За сопротивление милиции – тюрьма! Что здесь за собрание? Чево собрались? А? Экстремизм? Здесь несанкционированный пикет! Документы, мля! Встать! Чего лежите!

*(Амонаўцы пачынаюць граміць мэблю, выкідваць з шафы адзеньне, пераварочваць крэслы, раськідаць кнігі з паліцаў. Васіль і Настася, устаўшы,назіраюць за ўсім.)*

3 –ц і  а м о н а в е ц: – А вот посмотрите, что здесь!

*(Падае маёру кніжачку „Парсіваль")*

М а ё р: – *(чытае па літарах)*: – „Дарагому сыночку Андрэйку ў Д-зень народ-зінаў". Что за собачий язык! „Жыве Беларусь!" О! А это уже фашизм. Вот вы зачем собрались, значит, нацики! Несанкционированный пикет, значит. Кого вы хотите обмануть, мля! Хотите народ в крови потопить, да? Мы вас, сволочи, нациков-фашистов из-под земли достанем! Против России работаете, суки!

В а с і л ь  Д а б р ы н е ў с к і: – Вы што тут трызьніце, спадар пагромшчык? Якія „нацыкі", які „фашызм", які „пікет"? Хто вам даў права ўрывацца ў мой дом? Прадстаўцеся, хто вы?!

М а ё р: – А вот в отделении и узнаете. *(Да амонаўцаў)* – Наручники! Ты у нас по-чэловечэски заговоришь. *(Амонаўцы зашпільваюць наручнікі Васілю і Настасі.)* Сопляков тоже забрать. *(Амонаўцы накладаюць наручнікі дзецям.)* – Там разберёмся, какова хрена здесь митинговали на фашистском языке. Вперед, мля!

*(Усіх выводзяць. Дзьверы засталіся расчыненыя.)*

## С Ц Э Н А 2

(Андрэйка, Пятрусь, Кастусь у доме Дабрынеўскіх)

А н д р э й к а: – Некалі тата казаў, што калі заграбуць, то ўжо ня выпусьцяць, бо ўсіх беларусаў забіваць будуць.

П я т р у с ь: – Мой бацька тое самае казаў, быццам сам „сукін сын” выступаў, што ўсіх „сьвядомых” выражуць.

К а с т у с ь: – Добра яшчэ што нас выпусьцілі. Але выходзіць, што калі мы падрасьцём, то нас таксама будуць забіваць.

П я т р у с ь: – Ну, спачатку арыштуюць за што-небудзь.

К а с т у с ь: – Вядома, а потым заб’юць у турме, як некалі такога Ашурака, ці нядаўна нашага Мішку Сугойця, памятаеце, у футбол гулялі. Дык сказалі, што сам памёр.

А н д р э й к а: – Што з татам і мамай – нічога не вядома. Пасадзілі – і ўсё. Дзядзька Антось казаў, што ім нейкі суд прыдумляюць. Божа літасьцівы, а як жа мне бяз бацькі і маткі быць! Чаму гэта такое няшчасьце на нас усіх!

П я т р у с ь: – Не бядуй. Мой тата кажа, што спачатку шмат каго праз месяц-два выпускаюць. А потым ўжо, кажа, хапаюць на доўга і прыдумляюць за што. Дык от і тваіх тату з мамай пэўня выпусьцяць.

К а с т у с ь: – Андрэй, я чуў, цётка Фрума маёй маме казала, што пакуль бацькі ў турме, цябе завязуць у школу-інтэрнат як непаўнагадовага.

А н д р э й к а: – Там таксама турма. Я ня дамся.

К а с т у с ь: – Яны паб'юць, зьвяжуць і адвязуць.

А н д р э й к а: – Ну, не, хлопцы, я там ня буду.

П я т р у с ь: – Пасадзяць у турму.

А н д р э й к а: – Калі забяруць вашых бацькоў, то з вамі зробяць тое самае.

П я т р у с ь: – Дык што рабіць?

К а с т у с ь: – Трэба ратавацца.

П я т р у с ь: – Як?

А н д р э й к а: – А я ведаю, як.

П я т р у с ь і К а с т у с ь *(разам)*: – Ну, кажы.

А н д р э й к а: – Бацька казаў: сам сябе не ўратуеш, пакуль не ўратуем усіх.

П я т р у с ь: – Як гэта?

А н д р э й к а: – Тата з мамай гаварылі і я чуў, што калі нішчаць усіх, то адзін не схаваецца. Дастануць. Трэба, каб адзін ратаваў усіх, а ўсе – аднаго.

К а с т у с ь: – Добра, але што рабіць?

А н д р э й к а: – Тата казаў, што ўратуе Бог.

П я т р у с ь: – Мой бацька кажа, што паратунак ад Бога ідзе праз людзей.

А н д р э й к а: – Дык жа і мы людзі.

П я т р у с ь: – Мы яшчэ малыя, каб нешта зрабіць.

А н д р э й к а: – А давайце возьмем і зробім. Нам ужо па 13 гадоў. Чулі, што мае бацькі казалі: мы дарослыя.

К а с т у с ь: – Я гатовы.

П я т р у с ь: – Я гатовы, але што?

А н д р э й к а: – Памятаеце, калі мы чыталі кніжку, то зьбіраліся ў Мір, каб знайсьці начыньне Хрыстова, якое там схаванае? Гэты во Грааль.

П я т р у с ь: – Памятаем.

А н д р э й к а: – Дык пайшлі! Чаго сядзець. Чакаць, каб схапілі.

К а с т у с ь: – Грааль – гэта шчасьце ўсім людзям. Хлопцы, гэта ж калі знойдзем, як усё пераменіцца! Уся наша зямля расквітнее. Твой тата з мамай вернуцца. Усе выйдуць з турмаў, стануць весяліцца і сьпяваць. Ня стане ні мянтоў, ні маскалёў, ніхто ня будзе нас абзываць, ніхто ня будзе лаяцца, усюды будзе Бог і ўсюды будуць казаць па-беларуску.

К а с т у с ь: – Я мяркую так, як мой тата кажа: „Надумаў? Рабі!” От і пайшлі, з ходу і цяпер.

А н д р э й к а: – Значыцца, так. Коней у нас няма. Але бацька казаў, што да вялікай мэты трэба йсьці нагамі, духоўнай дарогай.

Гэта значыцца – не па асфальце, а напрасткі. Дык я вось тут компас дастаў і мапу, каб кірунак мецць.

П я т р у с ь: – Я думаю гэтак, як Кастусь, каб з ходу і цяпер. Інакш ня выберамся.

А н д р э й к а: – Дык згода?

П я т р у с ь  і  К а с т у с ь *(разам)*: – Згода!

А н д р э й к а: – У Імя Айца і Сына, і Духа Сьвятога *(жагнаецца)* Аман.

У с е  р а з а м: – Божа, багаславі наш шлях. Багаславі наш чын.

*(Выходзяць з дому.)*

## С Ц Э Н А 3

(Андрэйка, Кастусь, Пятрусь ідуць праз лес.)

А н д р э й к а: – Цікава. Як па мапе, дык тут не павінна быць лесу. А гляньце, які лес.

П я т р у с ь: – і краявід такі дзіўны – узгоркі пароcлыя сінім лесам з-за дрэў відаць.

А н д р э й к а: – Але. Ці заўважылі вы, што тут нейкае іншае сьвятло, такое белае, а неба, як васілёк.

П я т р у с ь: – Можа, таму так здаецца, што мы даўно з гораду не вылазілі.

К а с т у с ь: – Не, хлопцы. Я зразумеў. Тут іншае. Мы йдзем духоўным шляхам. Мы крочым па ім. Праўду Васіль Яўгенавіч

казаў, што да Грааля трэба йсьці толькі напрасткі па магнітнай стрэлцы. Тут усё так і ня гэтак. Аж мяне дрыжыкі працінаюць.

А н д р э й к а: – А вунь, гляньце, капліца, касьцёлік відаць. Адкуль тут што?

*(Падыходзяць да капліцы, ля якой сядзіць стары чалавек. Хлопцы глядзяць на яго. Чалавек маўчыць.)*

К а с т у с ь: – Добры дзень.

*(Стары ўздымае галаву. Ён маліўся. У руцэ ружанец.)*

А н д р э й к а: – Ціможна спытаць?

С т а р ы  ч а л а в е к: – Пытайся.

А н д р э й к а: – Ці можна зайсьці ў касьцёл?

С т а р ы  ч а л а в е к: – Можна. Але ня кожны заходзіць.

К а с т у с ь: – Мы б хацелі зайсьці.

С т а р ы  ч а л а в е к: – Той шчасьлівы, хто можа зайсьці.

П я т р у с ь: – Дзядуля так кажа, нібы ёсьць перашкода?

С т а р ы  ч а л а в е к: – Няма перашкоды. Але я нерухомы.

К а с т у с ь: – Што значыць – нерухомы?

С т а р ы  ч а л а в е к: – Я паміраю. Ногі мне адняло і цела здранцьвела. Я тут адзін. Назіраю, як людзі глядзяць на касьцёл.

А н д р э й к а: – Не памірай, дзядуля. Мы дапаможам табе. У нас ёсьць вада. Вось, папі вады. *(Дае вады.)* – У нас ёсьць

хлеб і сыр у дарогу. Вось, паеш. *(Частуе Старога чалавека.)* – Падмацуйцеся. А мы дужыя. Мы на руках унясём дзядулю ў капліцу, каб убачыў алтар.

С т а р ы  ч а л а в е к: – Дзякуй. Вы добрыя дзеці. Скажыце мне, куды йдзяцё?

А н д р э й к а: – Мы йдзем у Мір шукаць Грааль, каб стала шчасьце ўсім людзям.

С т а р ы  ч а л а в е к: – Спаўняецца запавет. Я чакаў на вас усё жыцьцё, і вы прыйшлі. Мне адабрала ногі Сусьветнае зло, каб я сядзеў тут вечна і нікуды ня йшоў, бо я шукаў шчасьця для свайго народа. Але Бог зжаліўся нада мной і праз свайго Анёла сказаў мне, што я ўстану тады калі прыйдуць дзеці з добрым сэрцам, якія будуць шукаць шчасьце для ўсіх людзей. і вось вы прышлі з добрым сэрцам.  Цяпер слухайце. Ваш шлях цяжкі. Вы пройдзеце яго, калі ня будзеце азірацца. Вам загародзіць дарогу Сусьветнае зло. Каб яно не забіла вас, даю вам мэдалік з гэтай капліцы. *(Дае мэдалік Андрэйку.)* – Хай адзін з вас трымае яго каля сэрца. На вас будуць кідацца, але ніхто не даткнецца да вас, калі будзе мэдалік. і памятайце: што б ні было – не азірайцеся. Азірнецеся – ня будзеце жыць. Ідзіце. Хай будзе над вамі Бог.

А н д р э й к а: – Але мы ня можам дзядулю тут пакінуць без дапамогі.

С т а р ы  ч а л а в е к: – Не клапаціцеся. Мне дапаможа Бог. Ідзеце.

*(Хлопцы кланяюцца Старому чалавеку і хутка адыходзяць.)*

# С Ц Э Н А 4

(Андрэйка, Пятрусь, Кастусь выходзяць на паляну. Вакол – змрочны лес.)

А н д р э й к а: – Але і лес. Змрочны, як у казцы.

К а с т у с ь: – Гляньце, наперадзе нейкі прасьвет. і там відаць нібы ўзаранае поле.

П я т р у с ь: – Праўда. Як быццам поле відаць.

*(Чуецца скрыпучы гук. Так скрыпяць старыя дзьверы. Гук паўтараецца. Хлопцы прыслухоўваюцца і маўчаць.)*

Г о л а с: – *(гучыць сярдзіта, хрыпла і злосна):* – Вы чево бродите здесь в маём лесу, щенки? *(Паўза.)* Валите отседова, дерьмо! *(Зьверху на хлопцаў накідваецца з крыкам зграя варон. Хлопцы адмахваюцца. Вароны ня могуць даткнуцца да іх. Зграя зьнікае.)* – Поворачивайтесь, покуда вам головы не оторвали! Мля!

А н д р э й к а: – Ты хто? Пакажыся. Мы не баімся.

*(Чуецца дзяркаты скрып і кашаль.)*

Г о л а с: – Шчяс упырей на вас нашлю, сопля паршивая.

*(Зьяўляюцца два мерцьвякі-вурдалакі і кідаюцца на хлопцаў.)*

А н д р э й к а: – *(крычыць)*: – Хлопцы, стаяць! Ня бойцеся! З намі Бог!

*(Хлопцы хапаюцца за Андрэя і гуртуюцца вакол яго. Вурдалакі ня могуць падступіцца, каб высмактаць кроў. Нейкая сіла іх не падпускае. Нарэшце, вурдалакі ўцякаюць.)*

К а с т у с ь: – Гэй, ты там! Мы не баімся!

А н д р э й к а: – Хлопцы, наперад!

*(У гэты час дзяркатым бабскім голасам разухабіста*
*і вульгарна гучыць песьня:*

*“Расцветали яблони и груши,*
*Поплыли туманы над рекой.*
*Выходила на берег Катюша,*
*На высокий берег на крутой!..”*

*Адначасна выскокваюць з двух бакоў дзьве ведзьмы і віхляюцца. Яны паўголыя, у трусах і ў празрыстых панчохах на гумовых падцяжках з зашпількамі на набэдрыках. Зьверху толькі станікі, пад станікам непамерна велізарныя цыцкі. Валасы ў ведзьмаў ускалочаныя, непрычасаныя, ярка малінавага і сіняга колеру. На твары грубы цыркавы макіяж, губы пад памадай чорнага колеру, пазногці таксама чорныя, на голым жываце – тату – чорт з рагамі. На адной назе чорны батфорт вышэй калена, на другой – грубая белая красоўка на высокай платформе зь незавязанымі шнуркамі. Ведзьмы віхляюцца пад песьню. Куплет паўтараецца.*

*Нарэшце, па цэнтры выходзіць Баба Юга, абапіраючыся на драўляную лапату, на якой толькі што прыляцела. Яна больш чым за два мэтры ростам. Ногі Югі – да калена мэталёвыя стаўбуны. Баба згорбленая ў чорнай хламідзе. Валасы сівыя, ускудлачаныя, доўгі нос кручком, зь ніжняй сківіцы выстыркаюць клыкі. Баба ня голеная, у яе мужчынскае шчаціньне на твары, падбародак востры і вялікі, вушы асьлінія. Левай рукой Юга абапіраецца на лапату, у правай – бутэлька з півам, зь якой Баба час ад часу папівае.)*

Б а б а Ю г а: – Ну, куда прёте, сволочи! А? Какова хрена! Отвечать! Мля!...

А н д р э й к а: – Ты хто?

Б а б а  Ю г а: – Ты что, не видишь, мля! Я Баба Юга, стервец. Куда прёте, мля!

А н д р э й к а: – Мы ідзем у замак Мір.

Б а б а  Ю г а: – Понятно... Значит так, ворюги. Не дойдёте.

А н д р э й к а: – Чаму?

Б а б а  Ю г а: – Впереди моё гадючье поле. Его не обойти. Вы там окачуритесь, дураки. Поварачивайте – и назад.

К а с т у с ь: – Мы йдзем наперад.

Б а б а  Ю г а: – Как хотите, дураки. Я вам по-матерински говорю, мля, по-отечески предупреждаю. *(Паўза.)* – Ну, что, одумались? Мля.

А н д р э й к а: – Мы йдзем наперад.

Б а б а  Ю г а: – Ведьмы! Отведите дураков к полю. *(Зьнікае.)*

1-я  в е д з ь м а: – *(падскоквае):* – Мальчики, я вам всё расскажу. Не бойтесь.

2-я  в е д з ь м а: – Да-да, не бойтесь, ребята, мы с вами. Баба Юга – это такая дрянь. Мы не можем от неё избавиться. Мы за равноправие. Мы вам поможем.

1-я  в е д з ь м а: – Да-да, поможем. Слушайте внимательно. На вас будут нападать из-за спины, сзади всякие гады, змеи, кракадилы, анаконды, будут сипеть и орать и стремиться вас схватить. Не бойтесь. Вам надо сразу, вовремя и мгновенно обернуться и посмотреть гадам в глаза. Как только вы обернетесь и посмотрите на них – они сразу рассыплются. Дальше – путь свободен.

2-я в е д з ь м а: – Ах, если бы вы знали, как мы ненавидим эту проклятую Бабу Югу. Успехов, мальчики. Победа будет за нами.

*(Штурхаюць хлопцаў наперад і зьнікаюць.)*

А н д р э й к а: – Ну, што скажаце?

П я т р у с ь: – Стары чалавек – ад Бога. Трэба яго слухаць.

К а с т у с ь: – Усё тут зразумела. Трымацца разам. Не азірацца. Божа, дапамажы!

*(Падыходзяць да гадзючага поля, якое кішыць гадзюкамі. Яны шыпяць.)*

А н д р э й к а: – Хлопцы, абымемся. Галава да галавы. Не азірацца. У Імя Айца і Сына і Духа Сьвятога. Пайшлі.

*(Ступаюць на гадзючае поле. Усе гады і зьмеі пачынаюць хорам шыпець, кідаюцца на дзяцей.)*

А н д р э й к а: – *(ён пасярэдзіне, хлопцы йдуць, абняўшыся ў кошык)*: – Хлопцы, сьмела! Ня ўкусяць! З намі сіла Божая! Ідзем!

*(Ідуць праз поле. Чуваць шыпеньне, рыканьне, бурчэньне, скавытаньне. Прылятаюць вялікія кажаны і кідаюцца на дзяцей. Чуваць лямант і абрыўкі фраз: „Шайбу” Шайбу! Мля!” „От советского информбюро..,” ”Хрен редьки не слаще”, „Ха-ха-ха-ха!”, „В очередь, товарищи, в очередь, мля!” „Пятилетку в три года!” „Пошел на фиг!” „Космическое пространство...” Гудзяць машыны, абрыўкі песьняў і крыкаў; „Это праздник со слезами на глазах... ”, „Уйбэр алес...”, „Выходила, песню заводила...”, „Пся крэв...”, „Сплотила навеки великая Русь...”, „На нём защитна гимнастёрка...”, „А я люблю женатова...”, „Спасибо партии, великой партии...”. Чуваць выкрыкі: „Ограниченный контингент... ”, „Кукуруза!”, „Наши доблесные вооруженные*

*сілы...”, „Дадим стране угля...”, „Наши советские женщины”, Принять меры!”, „Слава КПСС”, „И чтобы впредь...”, „Ни хрена себе...”, „И страны советской демократии...”,, „Права женщин...”, „Евросоюз...”, „ЛГБТ”, ”Климатические условия...”, „Хватит триндеть...”, „Объединение усилий...” „Никакіх гвоздей...”*

*Уздымаюцца вялікія кобры і ківаюцца перад тварамі дзяцей, але ня могуць даткнуцца. З тылу падкрадваецца двугаловы дракон, ляскае зубамі і шыпіць; двугаловы каршун кружыцца і скрыпіць дзьвума дзюбамі: „Скрепы! Скрепы! Скрепы!” )*

А н д р э й к а: – Хлопцы, наперад! Глядзім наперад! Толькі наперад!

К а с т у с ь: – Наступіў на гадзіну!

П я т р у с ь: – Тут такія гады, якіх ніколі ня бачыў.

К а с т у с ь: – Чуеце, з тылу дыхаюць смуродам.

А н д р э й к а: – Толькі не азірацца!

П я т р у с ь: – Во, і ў паветры гады лётаюць.

*(Ляціць яшчар з вогненнымі вачыма і рычыць: „Отторжено возвратих! Возвратих! Возвратих!” Пралятае над галовамі.)*

А н д р э й к а: – Хлопцы, наперад!

*(Крочаць і сьпяваюць у рытме крокаў.)*

А н д р э й к а, К а с т у с ь, П я т р у с ь *(разам)*: –
Гу! Га! Разам, хлопцы!
Гу! Га! Мы малойцы!
Гу! Га! Разам крочым!
Гу! Га! Бог над намі!
І на Божу здайма волю

Нашы жыцьці і нядолю!
Гу! Га! Разам, хлопцы!
Гу! Га! Мы малойцы!
Гу! Га! Разам крочым!
Гу! Га! Бог над намі! .....

*(Выходзяць на сьветлае роўнае месца, парослае лугавой травой, у белых і чырвоных кветках.)*

А н д р э й к а: – Усё, хлопцы, усё! Мінулі гадаў. Чыстая зямля.

П я т р у с ь: – О, зямелька! О зямелька наша чыстая, наша любімая! *(Падае на калені, плача, цалуе зямлю, абымае яе...)* Як добра на чыстай зямельцы! Як хораша! Як добра, зямелька, цябе любіць! Маці наша, зямелька родная, наша прыўкрасная!

А н д р э й к а, К а с т у с ь: – Зямелька! Зямелька наша! *(Падаюць на калені, цалуюць зямлю, абымаюць яе і плачуць.)* Зямелька! Зямелька наша родная!..

## С Ц Э Н А 5

(Чыстая сьветлая дарога, парослая паабапал белымі і чырвонымі кветкамі. У пэрспэктыве дарогі ў далечыні ўзвышаецца Мірскі замак. Ля дарогі каплічка са стрэшкай, пакрытай чырвонай дахоўкай. Па дарозе ідуць Андрэйка, Пятрусь, Кастусь, падыходзяць бліжэй. На палове дарогі яны спыняюцца і глядзяць на Мірскі замак. У гэты час замак зьмяняецца. Ён пачынае зіхацець у залатых праменьнях.)

П я т р у с ь: – А во! Гляньце, ён зіхаціць.

К а с т у с ь: – Дзіва дзіўнае.

А н д р э й к а: – А я думаю – зіхаціць таму, што там Грааль ёсьць.

К а с т у с ь: – Але ўсяроўна дзіва.

*(З капліцы выходзяць двох рыцараў у старадаўніх строях і Маланьня ў доўгім серабрыста-бліскучым адзеньні тыпу габіту. Узіраюцца на дзяцей.)*

М а л а н ь н я: – Падыходзьце бліжэй. *(Дзеці падыходзяць.)* – Глядзіце на замак. Што бачыце?

А н д р э й к а: – Мірскі замак.

М а л а н ь н я: – Як ён выглядае?

А н д р э й к а: – Ён у залацістых праменьнях і ўвесь зіхаціць.

М а л а н ь н я *(да Кастуся)*: – Ты?

К а с т у с ь: – Зіхаціць у праменьнях.

М а л а н ь н я *(да Пятруся)*: – Ты?

П я т р у с ь: – Залатыя праменьні вакол замка. Ён зіхаціць.

*(Маланьня паварочваецца і адыходзіць у капліцу.)*

1-ы р ы ц а р: – Як завуць вас, дзеці, і колькі вам гадоў?

А н д р э й к а: – Андрэй, Кастусь, Пятрусь. Усім 13 гадоў.

2-г і р ы ц а р: – Мы рыцары варты Міру. Мы радыя вітаць вас. Такое здарылася ўпершыню, каб тут сталі дзеці пасьля трынаццаці. Гэта добры знак.

1-ы р ы ц а р: – Па гэтай дарозе прыходзіць той, хто прайшоў праз гадзючае поле. Гэта духоўны шлях. Той, хто прайшоў па ім – сузірае духоўны вобраз замка. Хто не прайшоў, той яго ня

бачыць. Вось гляньце, вакол ходзяць цяперашнія людзі, якія тут жывуць. Вы можаце ў іх спытацца, што яны бачаць.

А н д р э й к а: – *(зьвяртаецца да жыхара, які ідзе і глядзіць у мабільны тэлефон.)*: – Добры дзень.

Ж ы х а р: – Здравствуйте.

А н д р э й к а: – Ці можна ў вас нешта спытаць?

Ж ы х а р: – Да. Слушаю.

А н д р э й к а: – Скажыце, калі ласка, як выглядае замак, што перад намі?

Ж ы х а р: – Не понял.

А н д р э й к а: – Што вы бачыце?

Ж ы х а р: – Гм... Что бачу. Замак вижу.

А н д р э й к а: – Як ён выглядае?

Ж ы х а р: – Гм... Странный вопрос. Ну, замок как замок, из красного кирпича, красивый.

А н д р э й к а: – Дзякуй за тлумачэньне.

*(Жыхар адыходзіць, паціснуўшы плячыма.)*

К а с т у с ь: – *(да прыгожай дзяўчыны, занятай глядзеньнем у тэлефон. Яна бяз верхняга адзеньня, у трусах, у чорным станіку, у белых красоўках на высокай платформе, з цёмна-вішнёвай памадай на губах і з цёмна-вішнёвым манікюрам)*: – Добры дзень. Выбачайце, спадарыня, ці можна да вас зьвярнуцца?

Д з я ў ч ы н а *(спыняецца)*: – Чево?

К а с т у с ь: – Ці можна ў вас пра нешта спытаць?

Д з я ў ч ы н а: – Зачэм?

К а с т у с ь: – Я хацеў пра замак спытаць.

Д з я ў ч ы н а: – Какой замак?

К а с т у с ь: – Вось гэты *(паказвае рукой).*

Д з я ў ч ы н а: – И что?

К а с т у с ь: – Калі вы глядзіце на замак, што вы бачыце?

Д з я ў ч ы н а *(глядзіць на замак)*: – А что? Что-то не так?

К а с т у с ь: – Вы ня бачыце ў ім чагосьці асаблівага?

Д з я ў ч ы н а: – *(зноў глядзіць на замак)*: – Ну, замак, как замак, красивый, с башнями.

К а с т у с ь: – Дзякуй, спадарыня.

Д з я ў ч ы н а: – Незашта, мальчик, хотя я и не барыня.

*(Адходзіць, пасьмейваючыся, гледзячы ў тэлефон.)*

1-ы р ы ц а р: – Людзі, якія не супроцьстаяць злу і не прайшлі праз гадзючае поле, сапраўднага замка ня бачаць. Для іх зачынены духовы сьвет. Вы пераканаліся.

А н д р э й к а: – Але ж яны, калі б захацелі, ці могуць убачыць праўду?

1-ы р ы ц а р: – Могуць. Але трэба воля. Вы чулі, яны гавораць на чужой мове. Каб бачыць праўду, трэба адмовіцца ад быту сусьветнага зла. Трэба шанаваць сваё. Калі не шанаваць сваё – будзеш чужым. Той, хто жыве ў сьвеце ілжы – ня бачыць праўды.

А н д р э й к а: – Але калі ня верыць ілжы?

1-ы р ы ц а р: – Гэта добра. Але мала. Да праўды трэба імкнуцца і па праўдзе жыць.

2-гі р ы ц а р: – Людзі відушчыя прыходзяць сюды толькі той дарогай, якой прыйшлі вы.

К а с т у с ь: – А Баба Юга зь ведзьмамі можа прыйсьці?

2-гі р ы ц а р: – Можа прыкінуцца сьветлай і прыйсьці. Але зьзяючага замка ня ўбачыць.

А н д р э й к а: – А калі Баба Юга зь ведзьмамі нападуць на замак, што будзе?

2-гі р ы ц а р: – Тады Маланьня спаліць іх маланкай.

1-ы р ы ц а р: – Граальнедасяжны для нечысьці.

2-гі р ы ц а р: – Мы таксама сьцеражэм замак, каб яго не псавалі людзі.

П я т р у с ь: – Ці можна нам стаць рыцарамі варты Міру?

1-ы р ы ц а р: – Можна, калі вам споўнілася 13 гадоў.

2-гі р ы ц а р: – Праз сем гадоў кожны з вас можа стаць рыцарам дасканалым.

К а с т у с ь: – Што азначае „рыцар дасканалы”?

1-ы р ы ц а р: – Рыцар дасканалы – гэта ня толькі аружжа. Трэба шанаваць жанчын, паважаць старых, любіць людзей, ва ўсім трымаць чысьціню, баяцца Бога і ўмець маўчаць.

2-гі р ы ц а р: – Але галоўнае – рыцар дасканалы сьцеражэ замак, дзе спачывае Грааль, бароніць свой народ і сваю Айчыну.

А н д р э й к а: – Мы хочам бараніць Айчыну. Мы хочам знайсьці Грааль, каб было шчасьце людзям.

2-г і р ы ц а р: – Хто знойдзе Грааль, ведае толькі Бог. Бог пакліча таго. Ён знойдзе Грааль выпадкова. Таму трэба берагчы замак Мір, каб спраўдзіўся запавет. Ніхто ня ведае, можа, той, каму адчыніцца Грааль, будзе адзін з вас.

1-ы р ы ц а р: – Але ёсьць яшчэ запавет, пра які ведаем мы. Чалавек, якому адчыніцца Грааль, зьявіцца тады, калі колькасьць дасканалых рыцараў варты Міру дасягне 144 тысячаў. Колькі нас ёсьць цяпер, мы ня ведаем і палічыць ня можам, бо так наканавана ў запавеце Божым.

Мы прымаем кожнага, хто прыходзіць гэтым сьветлым шляхам, каб большала наша прысутнасьць.

А н д р э й к а: – Годныя рыцары, калі ласка, прыміце мяне ў рыцары варты Міру. Я буду рабіць усё, каб берагчы Грааль дзеля шчасьця людзей. і ня важна, каму адчыніцца запавет.

1-ы р ы ц а р: – Гэта словы ўжо не дзіцяці, а сталага чалавека. Лічы, што ты прыняты.

К а с т у с ь, П я т р у с ь: – *(разам)*: – і нас прыміце. Мы разам.

2-г і р ы ц а р: – Вы здабылі рыцарства варты Міру тым, што прайшлі праз гадзючае поле і прыйшлі сюды сьветлым шляхам. Патрэбная была толькі ваша воля. Вы можаце жыць вольна,

вярнуцца дадому, але вы ўсяроўна застанецеся рыцарамі варты Міру. Тым часам, каб стаць рыцарам дасканалым, той мусіў бы праз сем гадоў вярнуцца сюды і тут застацца.

А н д р э й к а: – Я гатовы застацца.

К а с т у с ь: – і я гатовы.

П я т р у с ь: – і я гатовы.

1-ы р ы ц а р: – Вы сумленныя хлопцы. Вашыя паводзіны вартыя рыцарства. Заставайцеся імі. Але не сьпяшайцеся жыць. Вучыцеся. Праз сем гадоў, калі вам стане 21 год, тады вы пакіруецеся сабой як мужчыны. Скарыстайце гэты час. Ён вельмі важны ў жыцьці чалавека.

А н д р э й к а: – Дзякуй, сьветлыя рыцары. Вы натхнілі нас. Мае тата і мама – у турме. Мы баімся што Пачвара ня выпусьціць іх жывымі, бо мы беларусы. Можа й мяне арыштуюць і пасадзяць у турму, бо я іхны сын. Але я ўжо не баюся. Вы прынялі мяне ў рыцарства варты Міру. Я буду бараніць Айчыну і сьцерагчы Грааль. Я ўвесь час буду ведаць пра гэта, каб мацнеў мой дух. Мы будзем разам.

П я т р у с ь, К а с т у с ь: – Мы будзем разам.

2-г і р ы ц а р: – Ня бойцеся. Цяпер нябачны Грааль будзе апекавацца вашым лёсам. Будзьце сьмелымі і будзьце разумнымі. Зло сканае. Пачвара рассыпецца. Усё добрае наперадзе. Слава Хрысту!

А н д р э й к а, К а с т у с ь, П я т р у с ь *(разам)*: – На векі вякоў! *(Абымаюцца за плечы рукамі. Андрэйка пасярэдзіне. Адыходзяць і сьпяваюць)* –

Грааль нам сьветлы шлях адкрыў.
Над намі Хрыстус наш Гасподзь.
Наперадзе Айчына.

Гэй, нашая Айчына, ты адзіная.
Гэй, вольная Айчына, ты нам родная.
Гэй, мілая Айчына, ты найлепшая.

Ня будзе ў твар пляваць пачвара.
Ня будзем гора гараваць.
Наперадзе Айчына.

Гэй, нашая Айчына, ты адзіная.
Гэй, вольная Айчына, ты нам родная.
Гэй, мілая Айчына, ты найлепшая.

Пад намі шлях істужкай ўецца.
Пад намі сьветлая дарога.
Наперадзе Айчына.

Гэй, нашая Айчына, ты адзіная.
Гэй, вольная Айчына, ты нам родная.
Гэй, мілая Айчына, ты найлепшая.

Жыцьцё не дарма нам даецца,
Каб Бога славіць і квітнець.
Наперадзе Айчына.

Гэй, нашая Айчына, ты адзіная.
Гэй, вольная Айчына, ты нам родная.
Гэй, мілая Айчына, ты найлепшая.

Грааль нам сьветлы шлях адкрыў.
Над намі Хрыстус наш Гасподзь.
Наперадзе Айчына.

Гэй, нашая Айчына, ты адзіная.
Гэй, вольная Айчына, ты нам родная.
Гэй, мілая Айчына, ты найлепшая.

*(Хлопцы, абняўшыся, сьпяваючы, аддаляюцца па сьветлай дарозе.)*

(Канец містэрыі)

27 жнівень 2023 г.

# П А В Е Л

*(Дзеяпіс-маралітэ ў 12-ці сцэнах для тэатра і чытаньня. Дзеецца ў Ерусаліме, Дамаску, Рыме)*

## Прадмова

П’еса **„Павел”** зьяўляецца 5-й часткай драматычнага цыклу **„Эвангельскія дзеі”**, выдадзенага раней («Інсургенты», 2020 г.). Гэта драматычны дзеяпіс з элемэнтамі сярэднявечнага хрысьціянскага сцэнічнага жанру „маралітэ”. Твор прызначаны для вялікага прафэсійнага тэатра са шматлікай трупай і магчымасьцямі. Беларускі тэатар цяпер (2023 г.) разбураны і, фактычна, ліквідаваны прарасейскім акупацыйным рэжымам. Таму вялікай сцэны гэтая п’еса доўгі час ня ўбачыць. Аднак, яна напісана так, што амаль кожную яе сцэну (усіх 12) можна паставіць асобна як сцэнічны абразок з зразумелым сюжэтам. Гэта сьведама разьлічана на магчымасьці самадзейнага беларускага тэатра пры беларускіх цэрквах, касьцёлах, малельных дамах за мяжой у азылі, там, дзе вымушаны цяпер жыць беларусы.

Слава Хрысту!

## Асобы

1. П а в е л – Апостал, прызначаны Хрыстом, у мінулым – Савэл, Шауль – ахоўнік і ўдзельнік Сангедрыну, фарысей.

2. С т э ф а н – хрысьціянін, „муж слаўны” з прызначаных апосталамі.

3. Б а р н а б а – сябра апостала Паўла, апостал „ад сямідзесяці”.

4. П і л і п – хрысьціянін, „муж слаўны” з прызначаных апосталамі.

5. С т а р э й ш ы н а  С а н г е д р ы н у.

6. К а я ф а – першасьвятар.

7. Ё а н – архірэй.

8. А н н а́ – архірэй.

9. А л я к с а н д а р – архірэй.

10. Г а м а л і э л ь – фарысей-законьнік.

11. Ф а р ы с е й

12. К н і ж н і к

13. Ш л ё м а – ліхвяр-мяняла

14. Ц э м а х – ліхвяр-мяняла

15. І з я  з  н а т о ў п у

16. Б э р к а – вернік з Сінагогі

17. У л ь ф к а – вернік з Сінагогі

18. М і к а н о р – хрысьціянін, „муж слаўны” з прызначаных апосталамі.

19. З а к о н ь н і к

20. А б р а м – каваль, навернуты хрысьціянін.

21. Р ы в а – жонка Абрама

22. 1-ы  а х о ў н і к  С а н г е д р ы н у

23. 2-гі а х о ў н і к С а н г е д р ы н у

24. Г о л а с з ь Не б а (Х р ы с т о с)

25. А н а н і я – вернік, прапаведнік Эвангельля

26. Т ы с я ч н і к

27-29. С о т н і к, 1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р – (асобы бяз слоў)

30. Д ы я н і з А э р а п а г і т – вучань апостала Паўла, потым епіскап

31. Д а м а р ы с – жонка Дыяніза

32. Л і д з і я – заможная жанчына

33. Д э м е т р ы й – гандляр

34. С а д у к е й

35. К е ф а с – нерухомы калека ад прыроды

36. 1-ы э л і н

37. 2-гі э л і н

38. 3-ці э л і н

39. А н і к е т а с – Жрэц Зеўса

40. 1-ы ю д э й з А н т ы ё х і і

41. 2-гі ю д э й з А н т ы ё х і і

42. 3-ці ю д э й з А н т ы ё х і і

43. В е т э р а н   в о й с к а

44. Г а н д л я р

45. Н э р о н – імпэратар Рыму

46. П а п е я – жонка Нэрона

47. С э н э к а – паэт і філосаф, настаўнік Нэрона

48. С п о р у с – еўнух, гомасэксуаліст

49. П і ф а г о р – гомасэксуаліст

50. А п о л а с – цэнтурыён

51. Л ю т н і ц а

52. Э ў с э б і я – лесба, пакаёўка Папеі

53-54. 1-ы, 2-гі  с л у г і  Н э р о н а (асобы бяз слоў)

55. Г і с т о р ы я – алегорыя

56. А с ь в е т а – алегорыя

57. С п р а в я д л і в а с ь ц ь – алегорыя

58. М а р а л ь – алегорыя

59. М а с о ў к а: – кніжнікі, лаўнікі, мытнікі, члены Сангедрыну, вартаўнікі, слугі, ахоўнікі Сангедрыну і Сінагогі, рамесьнікі, гандляры, жаўнеры, бадзягі, зазывалы, рыбакі, ліхвяры, пастухі, садукеі, фарысеі, пагоншчыкі, кантары, шаўцы, законьнікі, рэзьнікі, юродзівыя, разьзявакі, слугі Нэрона, блудніцы і інш.

# С Ц Э Н А 1

(Пляц у Ерусаліме перад Сінагогай. На лаўках па баках сядзяць мянялы Цэмах і Шлёма і мяняюць грошы. Людзі, памяняўшы, уваходзяць у Сінагогу. Зьяўляецца Стэфан.)

С т э ф а н : – *(да мянялы)* – Бог над намі, Шлёма. Які абмен?

Ш л ё м а: – 15 дынараў за сікль.

С тэ ф а н: – Дарагавата, Шлёма. *(Да мянялы зьлева)* – А ў цябе, Цэмах?

Ц э м а х – Тое самае.

С т э ф а н: – Але ты мог бы спусьціць, праўда?

Ц э м а х: – Калі б я спусьціў, то ты б у мяне купіў.

С т э ф а н: – Дык і добра.

Ц э м а х: – Уй, яму добра, а Шлёма пакрыўдзіцца.

С т э ф а н: – Дык і Шлёма спусьціць.

Ш л ё м а: – Ны, можа, ты яшчэ хочаш, каб я табе даў задарма?

С т э ф а н: – Але ж ты ведаеш, што на мытніцы йдзе 4 дынары за сікль.

Ш л ё м а: – Ха! На мытніцы. Які ты разумны. Ідзі, памяняй, калі жывы застанешся. Падаткі, пошліну заплаціш, у лапу дасі і па карку атрымаеш.

С т э ф а н: – Ты ж разумееш, Шлёма, што з кожнай ахвяры Богу ты забіраеш сабе 70 частак са ста. Ты бярэш сабе болей, чым Бог. Ты ж ня Бог.

Ш л ё м а: – Так дазволена. Такі парадак, ўсё законна. А ты йдзеш проці закону.

С т э ф а н: – Закон мусіць быць справядлівы.

Ш л ё м а: – Раз такі закон ёсьць, значыць ён справядлівы.

С т э ф а н: – Яго прыдумалі людзі. Вы яго прыдумалі. Гасподзь не дазволіў гандлярства ў храме.

Ц э м а х: – А вэй, дык мы ж перад храмам.

С т э ф а н: – Бачу, вы добрыя людзі, але не забірайце мае грошы, што нясу Богу.

Ш л ё м а: – Уй, які ты ўпарты.

Ц э м а х: – Слухай, ты хочаш жыць, і я хачу жыць. Я табе прадаю, ты – купляеш. Добра мне, добра і табе. Дык што ты тут так доўга кажаш.

С т э ф а н: – Ты бярэш грошы задарма і хочаш узбагаціцца на абавязку людзей перад Богам. Хрыстос, Сын Божы, сказаў: не стварайце сабе багацьця на Зямлі, а стварайце на небе ў Духу сваім, бо пасьля сьмерці ты ня возьмеш багацьця з сабой, толькі Дух твой будзе з табой.

Ц э м а х: – Хораша кажаш, але дрэнна разумееш. Уй, ну, пэўня, навошта мне туды з сабой грошы браць. На што мне клопат. Але слухай: у мяне Хайка – раз, цёшча, каб яе халера, – два, цесьць зьдзяцінеў – тры, потым – Веня, Зяма, Цыля, Хава, Юда, а яшчэ, можа, Сорку прычакаем ці каго Бог пашле. Ны, дык во ім і застанецца.

Ш л ё м а: – У поце істоты сваёй здабудзем хлеб свой. У кожнага свой гандаль. Ты языком варочаеш, мы – грошы мяняем.

С т э ф а н: – Вы грошы робіце ня ў поце, а з паветра, несправядліва забіраючы іх у людзей, што шануюцьь Бога.

Ш л ё м а: – і што ты хочаш сказаць? Хто ў каго забірае? Людзі самы даюць.

С т э ф а н: – Бо вымушаны даваць, і вы тое ведаеце.

Ш л ё м а: – Ну, то могуць і не даваць, іхняя справа.

С т э ф а н: – Ня могуць не даваць, бо Бога шануюць. Ты меры ня знаеш, Шлёма. Мог бы жалеза кляпаць, хоць рыбу лавіць, ці рабіць нешта, што Богу прыемна.

*(Зьбіраюцца людзі і слухаюць.)*

Ш л ё м а: – Гляньце, людзі, ён напаў на мяне і патрабуе, каб я не шанаваў Бога. Ён кажа, што яго Бог Хрыстос забараніў нам прадаваць сіклі дзеля ахвяры ў Сінагозе. Ён блюзьнерыць на Бога.

Ц э м а х: – А вэй! А ў мяне Хайка – раз, цёшча, анёл, а ня цёшча, каб яе, – два, потым Веня, Зяма, Цыля...

К н і ж н і к: – А я яго бачыў, гэта той, што з тымі швэндаецца, з баламутамі, якія на шыбеніка моляцца.

Ш л ё м а: – Ён блюзьнерыў на Бога.

С т э ф а н: – Як табе ня сорамна, Шлёма, людзям маніць.

Ш л ё м а: – Маўчы, маўчы, ты забараняў мне прадаваць сіклі за дынары і казаў, што твой Бог Хрыстос так казаў. Ты адступнік і богаверзь.

Ф а р ы с е й: – Яго трэба пад суд.

І з я з н а т о ў п у: – Ну, дык чаго стаіцё! Бярыце яго! У суд яго!

К н і ж н і к: – Хадзем з намі. Там Каяфа разьбярэцца.

*(Людзі і разьзявакі штурхаюць Стэфана ў плечы. Дваіх ахоўнікаў з Сінагогі хапаюць яго за рукі, нагінаюць галаву і вядуць у Сангедрын.)*

Ш л ё м а: – *(сярод натоўпу)*: – Во, так яму і трэба, у суд яго. Гэта ўсё з тых адступнікаў, што з-пад Крыжа, тут круцяцца.

М і к а н о р: – Ты шмат крычыш, Шлёмка, і ўсё хлусіш. Я ведаю таго чалавека. Ён просты і дасканалы, і верыць у Бога Хрыста Сына Чалавечага.

Ш л ё м а: – Можа, і ты такі самы.

П і л і п: – Шлёмка, сьцішся, мы ж цябе ведаем. Памаўчы лепш, пакуль табе пэйсы не надралі. *(Да Міканора.)* – Трэба йсьці ў Сангедрын.

С а в э л: – А вы што, разам з тым вар'ятам? Можа, і на шыбеніка моліцеся?

М і к а н о р: – Мы ведаем цябе. Ты з аховы Сангедрына. Мы памятаем цябе, калі судзілі Хрыста. Тады ты быў маладзейшы. Ты памятаеш той суд?

С а в э л: – Памятаю.

П і л і п: – Ну, і што? Добра зрабіў Сангедрын?

С а в э л: – Добра.

М і к а н о р: – Ты бачыў Езуса?

С а в э л: – Бачыў.

М і к а н о р: – Ты зразумеў, што гэта быў Гасподзь Сын Божы, што Ён не вінаваты.

С а в э л: – Не.

М і к а н о р: – Чаму?

С а в э л: – Ён блюзьнерыў на Бога.

М і к а н о р: – Юда зразумеў.

П і л і п: – і павешаўся.

С а в э л: – Хто такі Юда?

М і к а н о р: – Вучань Хрыста, які за грошы прадаў Настаўніка на сьмерць.

С а в э л: – Я б такога не зрабіў. Але тых, хто за шыбеніка, трэба зьнішчаць і садзіць у цямніцу.

М і к а н о р: – За што?

С а в э л: – За разбурэньне веры, за парушэньне Закону і Божага парадку.

М і к а н о р: – Ідзе новы парадак. Ён таксама ад Бога. Хто зразумее, той уратуецца для жыцьця вечнага.

С а вэ л: – Я гэтага не разумею. Навошта новы, калі ёсьць стары?

М і к а н о р: – Я мог бы патлумачыць, але тут патрэбна Вера. Бяз Веры – бяссэнсоўна. Там, дзе Боскае – там Вера.

П і л і п: – Хоць ты нас і ня любіш, але прапусьці нас у Сангедрын. Мы станем сьведкамі. Стэфан не вінаваты.

С а в э л: – Добра. Але ён вінаваты ў тым, што верыць у блюзьнерства шыбеніка. *(Адыходзяць.)*

Ш л ё м а: – *(прыглядаецца да людзей, што на пляцы і да тых, што мяняюць у яго грошы. Падыходзяць Бэрка і Ульфка)*: – Шанаваньне добрым людзям.

Б э р к а: – Каб гэта аднаго сікля дастаць.

Ш л ё м а: – 15 дынараў – і твой. Бачу, ты добры вернік. А то тут быў адзін, на Бога блюзьнерыў і ўсіх вучыў, як жыць трэба.

У л ь ф к а: – *(лічыць грошы)*: – А мне дык якога паў-сікля, хіба. Чуў я пра таго поца. Якраз тут быў. Усё бачыў.

Ш л ё м а: – Ён ня поц. Ён шмок. У суд павялі.

У л ь ф к а: – Праўду кажаш. Халера, трохі не хапае *(трасе манетамі)*.

Ш л ё м а: – *(да Бэркі)*: – А ты чуў?

Б э р к а: – А той нешта там ёрзаў.

Ш л ё м а: – Слухайце. Дык калі вы чулі, што ён блюзьнерыў, то трэба, каб усе ведалі, каб не разносіў распусту.

Б э р к а: – Ны, каб ведалі. Добра кажаш. А што мне з таго?

Ш л ё м а: – *(да Цэмаха)*: – Ты чуеш, што ён кажа?

Ц э м а х: – А што ён кажа?

Ш л ё м а: – Ён сумняваецца.

У л ь ф к а: – Гэтых балаболаў цяпер разьвялося. Толькі людзей муцяць.

Ш л ё м а: – Я бачу, вы вельмі разумныя жыды. Трэба нешта рабіць. Каяфу данесьці, перад судом засьведчыць. Гэта, вядома, клопат, нават труд. Па аднаму сіклю кожнаму, а пасьля суду яшчэ па аднаму сіклю. Дык разам па два сіклі.

Ц э м а х: – Шлёма, ты вялікі чалавек.

У л ь ф к а: – Я за справядлівасьць.

Б э р к а: – і я так думаю. Адступнікаў трэба забіваць.

Ш л ё м а: – *(дае грошы Бэрку і Ульфку)*: – Дык не марудзьце. Яго ўжо павялі ў Сангедрын.

## С Ц Э Н А 2

(Сангедрын. На лавах сядзяць Старэйшына Сангедрыну, першасьвятар Каяфа, архірэй Анна́ (Ананій), архірэй Ёан, архірэй Аляксандар, 1-ы Законьнік, 2-гі Законьнік, Гамаліэль, фарысеі, садукеі, лаўнікі Сангедрыну. У памяшканьні таксама слугі, ахоўнікі і вартаўнікі Сангедрыну і запрошаныя прысутныя.)

С т а р э й ш ы н а: – Высокі Сангедрын, народ прывёў баламута і патрабуе яго сьмерці. Суд мусіць усіх выслухаць. *(Пляскае ў ладкі)*. Слугі, упусьціце народ і прывядзіце затрыманага.

*(Уваходзяць людзі, сярод іх Савэл, кніжнік, фарысей, Бэрка, Ульфка, Міканор, Піліп, вартаўнікі сінагогі, гандляры, ліхвяры Шлёма і Цэмах, рыбакі, мытнікі, зазывалы, фарысеі і садукеі, пастухі, пагоншчыкі, кантары, шаўцы, разьзявакі і інш. Прыводзяць Стэфана.)*

С т а р э й ш ы н а: – *(Стэфану)*: – Прыблізься. Ты хто?

С т э ф а н: – Я Стэфан.

С т а р э й ш ы н а: – Што ты робіш у Ерусаліме?

С т э ф а н: – Прапаведую Слова Божае.

С т а р э й ш ы н а: – Высокі Сангедрын, ці ёсьць пытаньні да прыведзенага?

А н н а́ : – Чаму цябе схапілі і прывялі сюды? Што ты зрабіў?

С т э ф а н: – Нічога не зрабіў. Ім не спадабалася мая размова зь мянялами.

Ё а н: – Што ты казаў?

С т э ф а н: – Я казаў, што мяняць грошы трэба па справядлівасьці.

С т а р э й ш ы н а: – Ці ёсьць сьведкі?

Ш л ё м а: – Ёсьць.

С т а р э й ш ы н а: – Назавіся.

Ш л ё м а: – Шлёма. Але я пацярпелы. Ён казаў, каб я не мяняў грошы для вернікаў сінагогі і каб ішоў лавіць рыбу. Ён блюзьнерыў, што ягоны Бог Хрыстос забараніў грошы.

С т а р э й ш ы н а: – Ці ёсьць сьведкі, якія чулі і пацьвердзяць тое, што казаў падсудны?

Б э р к а  і  У л ь ф к а: – Ёсьць. Мы пацьвярджаем.

С т а р ш ы н а: – Назавіцеся.

Б э р к а: – Бэрка.

У л ь ф к а: – Ульфка.

С т а р э й ш ы н а: – Што вы чулі?

Б э р к а: – Ён казаў, што ня трэба мяняць рымскія грошы і што трэба ахвяраваць на Сінагогу дынарамі, бо так загадаў яму баламут, што памёр на крыжы. А гэта зьнявага Сінагогі, сьвятакрадзтва.

У л ь ф к а: – А яшчэ ён казаў, што Закон Бога Ізраіля састарэў, і яго трэба замяніць на новы парадак.

Н а т о ў п к р ы ч ы ц ь: – Сьмерць яму! Сьмерць баламуту! Ён паклёпнічае на Закон. Гэта адступнік. Ён супраць Бога. Гадзіна! Распляскаць яго! Забіць!

С т а р э й ш ы н а: – Хто яшчэ можа пацьвердзіць словы гэтага чалавека?

М і к а н о р: – Я Міканор. Я ведаю затрыманага. Гэта добры чалавек. Ён ня мог такое казаць, што цьвердзяць гэтыя сьведкі.

С т а р э й ш ы н а: – Ты чуў, што ён казаў?

М і к а н о р: – Не. Але я сьведчу пра яго набожнасьць і вернасьць Закону.

К н і ж н і к: – *(з натоўпу)*: – А мне здаецца, ты сам такі, як гэты гаварэц.

Ф а р ы с е й: – *(з натоўпу)*: – Ты сам зь іхнай зборкі і можа трэба з табой разабрацца.

Ц э м а х: – Я, я! Я Цэмах. Я скажу. Я грошы даю. Уй, грошы – гэта такі клопат. Ён хацеў забараніць грошы і казаў, што яму загадаў

Сын Божы. А ў мяне Хайка – раз, цёшча Блюма, каб ёй, каб ёй, гэты, во, цесьць на галаве, потым Веня, Зяма, Цыля, Хава, Юда...

С т а р э й ш ы н а (*перабівае*) : – Што ты чуў?

Ц э м а х: – Я чуў, ён казаў, што трэба зьмяніць Бога на новага Бога.

*(У натоўпе крычаць: – Сьмерць! Сьмерць такому. Гэта шаленец ад Вельзевула. Сьмерць яму!)*

С т а р ш ы н я: – Цішыня! Суд будзе раіцца.

*(Лаўнікі і архірэі гуртуюцца, гавораць і ківаюць галовамі. Натоўп крычыць: – Сьмерць! Сьмерць! Сьмерць! У яму яго! Сьмерць!)*

К а я ф а: – Народ, суд зрабіў прысуд і ўлічыў думку сьвятарства, бо тут ёсьць злачынства перад Богам і перад Законам. Сангедрын лічыць, што адступнік мусіць быць пакараны сьмерцяй за блюзьнерства супраць Бога, за маўленьне супраць Закона і за зьняважэньне Бога. Віна адступніка даказана. і таму Сангедрын пастанаўляе выдаць злачынцу пракуратару рымскаму з паказаньнем доказаў віны адступніка і патрабаваньнем сьмерці яго праз пабіцьцё камянямі.

Апошняе слова адступніку. *(Да Стафана)* – Гавары. Можаш пакаяцца.

С т э ф а н: – Каюся перад Госпадам нашым Хрыстом, калі незнарок прагнявіў Яго. А вы, што жывяце ў ілжы, вы з цьвёрдымі каркамі, з зарослым сэрцам і вушамі, вы заўсёды працівіліся Духу Сьвятому; як айцы вашыя, так і вы. Каго з пракокаў не перасьледвалі айцыі вашыя? Яны забілі тых, хто прадказваў прышэсьце Справядлівага, здраднікамі і забойцамі якога цяпер сталіся вы, якія атрымалі Закон праз пасрэдніцтва анёлаў, але не захоўвалі яго. Ганьба вам будзе тут і на Небе. Вы – кайцеся!

*(Лаўнікі, законьнікі, архірэі і сьвятары Сангедрыну ўскокваюць, трасуць кулакамі і крычаць: „Гадзіна!” „Сьмерць падлюгу!” „Сьмерць!”)*

А н н а́: – *(выскоквае, падбягае да Стэфана і б’е яго)*: – Ты – хвост сабачы, ты плесьня, ты брыда геенская, зачыні свой рот сьмярдзючы, ты, здыхата! *(Б’е высьпяткам Стэфана.)*

Н а т о ў п: – *(крычыць)*: – Сьмерць сабаку! Лупі яго, Анна́ ! Лупі! Гэта чорт! Сьмерць яму! Сьмерць!

К а я ф а: – Слугі, узяць яго! *(Паказвае на Стэфана. Слугі падбягаюць, хапаюць Стэфана і цягнуць у двор.)*

С а в э л: – *(уздымае рукі ў гару і крычыць)*: – Хвала справядліваму Сангедрыну! Хвала першасьвятару Каяфу! Хвала Богу і ўсім прарокам!

*(Некаторыя крычаць: „Хвала!” Але бальшыня павaліла ў двор каменяваць Стэфана.)*

## С Ц Э Н А 3

(Двор Сангедрына. Пасярэдзіне глыбокая вузкая яма. Падводзяць Стэфана, зьвязваюць яму вяроўкай рукі за сьпіну і штурхаюць у яму.)

К а я ф а: – *(гучным голасам)*: – Хай збудзецца воля Неба і воля народа! За адступніцтва ад Закона і блюзьнерства на Бога адступніку Стэфану пакараньне біцьцём!

*(Натоўп з гіканьнем і пракляцьцямі пачынае кідаць камянямі ў Стэфана. Зь ямы відаць толькі скрываўленая яго галава.)*

С т э ф а н: – *(крычыць)*: – Хрысьце, Госпадзе Хрысьце, прымі мой дух. *(Натоўп у запале б'е Стэфана камянямі.)* – Госпадзе, заблукалі яны. Не лічы ім граху гэтага! *(Паміраe.)*

А н н а́: – *(ускоквае ў яму і скача над целам Стэфана)*: – Здохні ты! Здохні на векі вякоў! Аман.

## С Ц Э Н А 4

(Выходзіць Гісторыя і Справядлівасьць)

Г і с т о р ы я: – Я – гісторыя. Цела і душа мая поўныя крыві і несправядлівасьці. Але каб жыла справядлівасьць, нехта мусіць за яе паміраць. Стэфан – гэта вучань і сябра апосталаў Хрыста. Сьвяты чалавек, чыстая простая душа. Памёр за Веру. і ўсё, што вы тут бачылі, было ў сапраўднасьці. і словы яго былі.

С п р а д л і в а с ь ц ь: – Я – Справядлівасьць. Сьвет, у якім мы жывём, – гэта сьвет існаваньня, дабра і зла. Зло жыве гэтым сьветам. Яно княжыць тут і не выходзіць за межы існага. Зямля – яго царства і ягоная сьмерць.

Дабро існуе на Зямлі і жыве вечнасьцю. Яно змагаецца са злом і часта гіне, але непераможнае, бо накіраванае ў бясконцасьць, і там яго будучыня.

Тое, што я кажу, ёсьць агульнае разуменьне сьвету. Штодзённае нашае жыцьцё адбываецца між людзей. Але калі памятаць пра агульнае, тады чалавеку лягчэй ня зьбіцца з бясконцай дарогі, якая на Зямлі такая кароткая.

## С Ц Э Н А 5

(У доме каваля Абрама. Абрам, Рыва.)

А б р а м: – Рыва, сёньня вечарам маленьне будзе ў Міканора. Піліп папярэдзіў.

Р ы в а: – Нешта мне трывожна. Учора наш Фіма бачыў гэтых з аховы. Тут такі Савэл круціцца.

А б р а м: – Пэўня, нехта данёс. Ён дарма ня круціцца.

*(Стук у дзьверы. Абрам падыходзіць і адчыняе насьцеж. Увальваюцца два ахоўнікі Сангедрына разам з Савэлам.)*

С а в э л: – Лажысь! Усім ляжаць.

*(Ахоўнікі б’юць палкамі Абрама, хапаюць Рыву за валасы і кідаюць на зямлю. Рыва лямантуе.)*

С а в э л: – Зьвязаць абодвух.

*(Ахоўнікі вяжуць Абрама і Рыву. Рыва супраціўляецца, укусіла ахоўніка, той б’е яе па галаве.)*

А б р а м: – Вы хто? Вы гэта што?

С а в э л: – Дык каму вы зьбіраліся сёньня маліцца? Вельзевулу? Крокам руш, здрада! Наперад!

*(Ахоўнікі выводзяць Абрама і Рыву.)*

## С Ц Э Н А 6

(На падворку Сангедрына група ахоўнікаў і Савэл.)

С а в э л: – Добра папрацавалі. Едзем у Дамаск. Сьпяшаю туды. Там цэлае кубло гэтых атручаных. Усіх пераловім. Выкарчуем заразу.

1-ы А х о ў н і к: – Тут выходзіў Гамаліэль, казаў, што гэтых учарашніх выпусьцілі, бо дзеці малыя.

С а в э л: – Гамаліэль, вядома, вялікі і мудры муж. Але гэта з-за яго мудрасьці тыя дванаццаць бадзяюцца па сьвеце і множаць няпраўду.

2-гі А х о ў н і к: – Каб адразу іх кончылі, дык і гора б ня ведалі.

С а в э л: – Кончым усіх. Не схаваюцца. Але пара. Едзем конна. Далёкі шлях.

А х о ў н і к і: – *(разам)*: – Добры шлях!

С а в э л: – *(Адыходзіць у бок. Падымае з-пад сьцяны паходную сумку, сядло, крывы меч, трымае яго ў руцэ.):* – Ну, параднімся мы з табой, мой меч булатны, напоім цябе крывёй адступіўшых ад Бога, разбэшчаных і багахульных, і калі трапіцца нам на шляху цень Таго, што сканаў на Крыжы з-за блюзьнерства свайго, тады зьнясем Яго галаву, каб нават цень сьвятакрада была безгаловай.

*(Гучыць у Небе трывожны рокат грому, падплывае бліжэй і раптам – бляск на паўнеба і аглушальна б’е пярун. Сьветлы слуп паўстае з-пад зямлі, і ракоча ў Небе гром. Чуецца грымотны Голас, які запаўняе прастору.)*

Г о л а с: – Савэл, Савэл, чаму ты перасьледуеш Мяне?

С а в э л: – *(падае на зямлю)*: – Хто ты, Спадару?

Г о л а с: – Я Езус, Якога ты перасьледуеш. Устань і йдзі ў Дамаск, там скажуць табе, што павінен рабіць.

*(Савэл падымаецца зь зямлі і стаіць на каленях.)*

1-ы А х о ў н і к: – *(спалохана)*: – Што гэта было? Гром грымнуў голасам зь Неба. Што нам будзе?

2-гі А х о ў н і к: – Гляньце, Савэл маўчыць.

С а в э л: – *(Устае і шукае апоры рукамі)*: – Нічога ня бачу. Ня бачу нічога. О-о-о, як дрэнна мне. *(Спрабуе ісьці, але натыкаецца на сьцяну. Маўчыць.)* – Я зразумеў, Езу! Я зразумеў, Хрысьце! Я быў сьляпы. і толькі цяпер, калі асьлеп, – я ўсё ўбачыў. Прымі мяне, Госпадзе, і даруй, калі хочаш.

1-ы А х о ў н і к: – *(падыходзіць)*: – Можа, мы табе дапаможам, Савэл?

2-гі А х о ў н і к: – Ты хацеў у Дамаск. Мы адвядзем цябе.

С а в э л: – Адвядзіце мяне ў дом каваля Абрама, туды, дзе мы ўчора былі.

*(Ахоўнікі бяруць Савэла за рукі і вядуць да Абрама.)*

## С Ц Э Н А 7

(Жылььё Абрама. На лавах сядзяць Абрам, ягоная жонка Рыва і Ананія. Ананія чытае малітву.)

А н а н і я: – ...Сьвяціся Імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як на Небе, так і на Зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня...

*(Стук у дзьверы. Уваходзяць 1-ы і 2-гі ахоўнікі і вядуць сьляпога Савэла.)*

С а в э л: – Ці ёсьць тут каваль Абрам і ягоная жонка Рыва?

А б р а м: – Мы тут.

С а в э л: – *(падыходзіць да іх, мацаючы рукамі, становіцца на калені)*: – Абрам і Рыва, даруйце мне. Я быў сьляпы. Цяпер я ведаю, што Езус Хрыстус ёсьць Сын Божы і Збавіцель наш. Я йду ў Дамаск.

Я хачу прыняць хрост і несьці Слова Божае. Гасподзь пакараў мяне сьлепатой. Але я ўдзячны Яму, бо ўбачыў тое, чаго ня бачыў.

А н а н і я: – Я – Ананія. Ці ты ёсьць Шаўль, які Савэл і маеш другое імя Павел?

С а в э л: – Так, гэта я.

А н а н і я: – Я меў візію пра цябе ад Госпада нашага Езуса Хрыстуса і выканаю Яго волю. *(Ускладае рукі на Савэла.)* – Пан Езус паслаў мяне, каб ты зноў мог бачыць і напоўніўся Духам Сьвятым. *(Хрысьціць Савэла.)* – Хрышчу цябе правам, нададзеным мне Хрыстом.

С а в э л: – О-о! Ужо бачу. Усё бачу. Як добра. Дзякуй, Госпадзе, і табе Ананія, якога Бог паслаў дзеля мяне. Іду ў Дамаск. Я ведаю, што мне рабіць. *(Выходзіць разам з ахоўнікамі).*

Г і с т о р ы я: – *(Выходзіць на сцэну)*: – Я Гісторыя. Я сьведчу, як шмат тых, хто служылі Веры, дабру і Хрысту, як шмат тых Гасподзь правёў цераз зло, варажнечу, бяздумства і грэх, каб потым справа і вера іх была дасканалай.

Моцны дух гартуецца ў зьле і можа ўваскрэснуць, адрынаючы зло. Слабы дух гіне ў зле. Але толькі, калі дапаможа Бог, адбываецца гарт.

## С Ц Э Н А 8

(Дамаск. Вялікая зборка вернікаў-юдэяў, грэкаў-элінаў і пасьлядоўнікаў Хрыста. Вялікае прыватнае памяшканьне. Ля сьценаў лавы. Пасярэдзіне людзі сядзяць проста на зямлі альбо стаяць. Тут жа Павел, Барнаба, Аэрапагіт, Дамарыс, Лідзія, фарысеі, садукеі і інш.)

П а в е л: – Мужы ізраільскія, эліны і ўсе добрыя людзі, хто баіцца Бога, слухайце. Я Павел, на першае імя Савэл, арыштоўваў і кідаў у цямніцу тых, хто ішоў за Хрыстом, і вы, хто юдэі, – гэта

добра ведаеце. Калі я зьбіраўся ў Дамаск мне зьявіўся сам Хрыстос Сын Божы, які засьведчыў сябе ў дакоры мне за тое, што я супраць Яго рабіў. Ён сказаў ісьці ў Дамаск. і вось я тут пасланьнік Хрыста, бо ўверыў у Сына Божага, які на Небе і на Зямлі, які ёсьць.

Б а р н а б а: – Я Барнаба, апостал Хрыста, веру ў Бога, Закон і ўсіх прарокаў, сьведчу, што гэта сапраўды так.

П а в е л: – Браты. Нам паслана слова збаўленьня. Але жыхары Ерусаліма і кіраўнікі не пазналі Езуса, асудзілі і забілі Яго. Бог уваскрасіў Хрыста, дык няхай нам будзе вядома, што праз Хрыста абвяшчаецца нам адпушчэньне грахоў. Але сьцеражэмся, каб з намі ня здарылася тое, што сказана ў Прарокаў. А яны казалі, як напісана:

„Глядзіце, насьмешнікі, зьдзіўляйцеся і згінеце, бо Я раблю справу ў дні вашыя, справу, у якую вы не паверыце, калі б хто і распавёў вам."

Л і д з і я: – Слаўныя мужы, добра вас чуць, як хораша вы гаворыце. Я таксама думаю, што Хрыстос – гэта Месьсія, што Ён прыйшоў да ўсіх.

Д а м а р ы с: – О, так. Гэта так разумна, так па-Божаму – уратаваць людзей ад зла, калі самы таго захочуць. Я веру ў Бога і ў Сына Божага. Гэта адно і тое.

Ф а р ы с е й: – Ня слухайце, што гавораць жанчыны. У іх розум не даганяе словы. Яны гатовыя пайсьці за кожным, хто хораша гаворыць.

Ня слухайце гэтых адступнікаў, што адышлі ад Закона і навязваюць нам верыць у чарадзея, што павіс на крыжы. Трэба трымацца веры продкаў і жыць у Законе, а не кідацца ў спакусу, што нехта каму абяцаў.

Г а л а с ы: – Праўду кажаш. – Разумна. – Бачылі мы ўжо такіх. – Ходзяць і муцяць. – і што ім з таго? – Можа, ім заплацілі. –

Навошта бурыць Закон! – Іх трэба ў цямніцу. – Каменьнем пабіць! – Ня слухайце іх! – Ага, заўтра паслухаем.

А э р а п а г і т: – Ну, гэта мы ўжо ведаем; там, дзе гаворка пра ўсіх, – жыды будуць казаць толькі пра сябе. Сьвет глядзіць на Атэны і Рым, а не на жыдоў, якія вечна таўкуць адзін аднаго. Слухайце вы, мужы ізраілевы, тут поўна грэкаў, і мы хочам зразумець, хто ёсьць Хрыстос, які абʼявіў сябе Сынам Божым для ўсіх людзей.

Ф а р ы с е й: – *(перабівае)*: – А гэта яшчэ невядома, чый Ён там Сын. Месія прыйдзе ў сіле і славе для народу Ізраілевага. А гэты прыйшоў у зрэбʼі і хадзіў з мытнікамі, еў зь імі, віно піў, блудніц бараніў і з паганцамі знаўся.

Д э м е т р ы й: – Дык што, я павінен тады свой прыбытак спыніць, срэбра – на бок, Артэміду забыць і ўверыць Хрысту? А? Так гэта йдзе?

С а д у к е й: – Годная грамада, эліны, юдэі і мужы Ізраілевы, чуйце мяне, што скажу.

Шматгодны Барнаба і шматгодны Павел сказалі нам, што Бог Хрыстос выбраў Паўла сваім памазанікам. Дык вось, хай ён дакажа сваё апостальства і сваё намашчэньне, тады мы паверым.

Глядзіце, сярод нас на вазочку ёсьць элін Кефас, які ад нараджэньня кульгавы, нярухомы і ня можа хадзіць. Вось ён тут і слухае іх.

Чым ты засьведчыш, Павел, што ты ад Хрыста?

П а в е л: – *(да калекі)*: – Стань на свае ногі і выпрастайся.

К е ф а с: – *(ускоквае, зьдзіўлена абмацвае сябе ўражаны. Потым кідаецца да Паўла і кланяецца яму.)*: – Дзякуй, вялікі Павел, ты мой збавіцель.

П а в е л: – Ня мне дзякуй, а Хрысту, што аздаравіў цябе праз мяне.

*(У залі ўсе паўскоквалі зь месцаў, уражаныя тым, што ўбачылі. Асабліва ўзбудзіліся эліны, якія сталі крычаць.)*

1-ы э л і н: – Слухай, Элада, грэкі, слухайце! Гэта багі ў людзкім падабенстве сышлі да нас з Алімпа. Гляньце, гэта ж Зеўс (*паказвае на Барнабу*), а гэта Гермес (*паказвае на Паўла*) – Падайце ўсе. (*Некаторыя падаюць на зямлю.*) – Нясіце ахвяры. Багі сярод нас.

2-гі э л і н: – Жрэц? А дзе жрэц Зеўса?

3-ці э л і н: – *(улятае ў памяшканьне)*: – Тут жрэц. Тут. Шэсьць быкоў ужо прывёў перад брамай і вянкі ляжаць.

*(Уваходзіць жрэц Зеўса Анікетас, у руках трымае ахвярны меч.)*

1-ы э л і н: – О, вялікі жрэц Анікетас, багі спусьціліся да нас!

А н і к е т а с: – *(да Паўла і Барнабы)*: – Я Анікетас жрэц храма Зеўса. О, несьмяротныя, я перад вамі стаў. Мой меч ахвярны гатовы для ахвяр. Алімпа славу ўзносім да нябёс. *(Да Барнабы)* – О, Зеўс, прымі ахвяры перад брамай, хай меч насыціцца крывёй.

*(Павел і Барнаба рвуць на сабе адзеньне і кідаюцца ў гушчу натоўпу.)*

П а в е л і Б а р н а б а: – Людзі, стойце! Спыніцеся! Навошта гэта робіце! Мы такія самыя, як вы.

Б а р н б а: – Хрыстос не патрабуе ахвяры, але кажа каб мы верылі ў Бога адзінага Тварца Неба і Зямлі і шанавалі Яго.

П а в е л: – Мы абвяшчаем Эвангельле, каб вы ад гэтай марнаты адышлі і навярнуліся да Бога жывога, які стварыў Неба і Зямлю, мора і ўсё, што ёсьць. Нам ня трэба ахвяры. Мы – людзі, што верым у Хрыста.

*(У памяшканьне ўрываюцца некалькі юдэяў з Антыёхіі.)*

1-ы юдэй з Антыёхіі: – Гэй! Мы юдэі з Антыёхіі. Біце адступнікаў! Ня слухайце іх, яны за паганцаў!

*(Кідаюцца на Паўла і Барнабу, хапаюць іх і пачынаюць біць, штурхаюць іх у кут і закідваюць каменьнем.)*

Дыяніз Аэрапагіт: – Вы, дзікуны, спыніцеся, варвары, яны такія юдэі, як і вы!

Дамарыс і Лідзія: – *(становяцца, раскінуўшы рукі перад Паўлам і Барнабам, не даючы кідаць ў іх камяні.)*: – Стойце! Стойце! У Рыме ёсьць суд. Вы забыліся.

2-гі юдэй з Антыёхіі: – Прэч, жанчына, цябе заб’ем!

Дамарыс: – Паспрабуй, варвар, я грамадзянка Рыма.

Лідзія: – Вы са сваімі дзікімі законамі ня йдзіце супраць законаў Рыма. Вас павесяць на дрэве так, як вы павешалі свайго Хрыста.

3-ці юдэй з Антыёхіі: – Што! Ты, сьмярдзючая баба, прэч з дарогі!

*(Хапаюць Лідзію і Дамарыс, адкідваюць і бразгаюць аб сьцяну. Жанчыны падаюць у непрытомнасьці. Аэрапагіт выхоплівае ахвярны меч у жраца Анікетаса, які разгублена назіраў за склокай, і з крыкам „прэч!” кідаецца на антыёхійцаў. Антыёхійцы рассыпаюцца ў бакі. У гэты час сябры выводзяць Паўла і Барнабу з памяшканьня.)*

# С Ц Э Н А 9

(На вуліцы перад уваходам у памяшканьне. Павел выцірае кроў з галавы; выходзяць Барнаба і Лідзія. Выбягае Аэрапагіт, трымаючы Дамарыс за руку.)

П а в е л: – Дзякуй за дапамогу, Дыяніз. Цяпер ідзем у Ерусалім. Будзем гаварыць з прававерныімі.

А э р а п а г і т: – Я ня раю туды ехаць Павел. Ведаю, што там сабраліся сорак моцна верных жыдоў, якія пакляліся нічога ня есьці, пакуль цябе ні заб’юць.

Б а р н а б а: – Я пайду адзін.

П а в е л: – Ідзем разам.

Л і д з і я: – Годныя мужы, Павел, Барнаба і Дыяніз, і верная Дамарыс запрашаю вас у госьці ў мой дом. Ён прасторны для сяброў.

П а в е л: – Дзякуй, Лідзія. Хрыстос паміж нас.

*(Аддаляюцца. На авансцэну выходзяць Мараль і Асьвета.)*

М а р а л ь: – Я Мараль. У гісторыі мне найцяжэй, бо я сьведчу, што калі духоўнасьць веры трапляе ў асяроддзе варвараў, то яны зробяць зь яе сродак людабойства. Тое самае будзе ўсюды, дзе пануюць варвары, нягледзячы ні на што.

А с ь в е т а: – Я Асьвета. Каб Духу дабра пазьбегнуць шкоднага ўплыву дрэннага асяроддзя, трэба ісьці разам з культурай дзеля таго, каб унікнуць зманеньня і ня стацца аб’ектам нянавісьці.

# С Ц Э Н А 10

(Ерусалім. На плошчы перад сінагогай стаяць Павел і Барнаба.)

П а в е л: – Нарэшце мы тут. Пасьля Дамаска шмат людзей уверылі ў Езуса Хрыстуса, і найбольш паганцы, сюды і грэкі далучыліся.

Б а р н а б а: – Супраціў ідзе якраз ад жыдоў, прытым яны схільныя да гвалту і зьбіцьця.

П а в е л: – Гэта таму, што кніжнікі, законьнікі і сьвятары робяць плёткі і нагаворы і падбухторваюць людзей супраць нас.

Б а р н а б а: – Ну, так. Прыдзецца тлумачыць. Хрыстос казаў, што ня трэба ісьці ў Ерусалім. Тут не зразумеюць. Я перадумаў, адыходжу ў Дамаск, потым у Атэны і Македонію. Там ёсьць сэнс.

П а в е л: – Разумею цябе. Хрыстос папярэдзіў. Але мусіць быць сьведчаньне. Таму я застаюся, каб сьведчыць. Хрыстос над намі.

*(Абымаюцца і разьвітваюцца. Барнаба адыходзіць. Вернікі выходзяць з сінагогі. Плошча хутка напаўняецца. Сярод людзей ёсьць кніжнікі, законьнікі, фарысеі, садукеі, рамесьнікі, гандляры, ліхвяры, слугі, возьнікі, ахоўнікі сінагогі, бадзягі, калекі і інш. Паглядаюць на Паўла, спыняюцца іназіраюць.)*

Ф а р ы с е й: – *(выходзіць з натоўпу і пачынае казаць да Паўла)*: – Я цябе добра памятаю, Шаўль, яшчэ калі ты разам з народам каменяваў адступніка Стэфана. Цяпер ты перамяніўся, стаў Паўлам, сустракаешся з юдэямі, якія жывуць сярод паганцаў, і вучыш іх адступаць ад Майсея і ад звычаяў. Мы хочам пачуць, чаму ты тое робіш.

П а в е л: – Браты і айцы, паслухайце маё апраўданьне перад вамі. Я – юдэй, выхаваны каля ног Гамаліэля, навучаны Закону

айцоў, руплівец веры, як і ўсе вы сёньня. Калі я зьбіраўся ў Дамаск, раптам грымнуў гром і зазьзяла яркае сьвятло зь Неба. Адтуль моцны голас казаў мне: „Савел, чаму ты перасьледуеш мяне. Я Езус, Сын Божы. Устань, ідзі ў Дамаск, там скажуць табе, што трэба рабіць.”

Калі я потым маліўся ў сьвятыні, мяне агарнула захапленьне, я ўбачыў Езуса. Ён казаў мне: «Выйдзі зь Ерусаліма, бо ня прымуць твайго сьведчаньня пра Мяне. Ідзі, я пашлю цябе далёка да паганцаў».

*(Натоўп раптоўна выбухае галасамі.)*

У с е  к р ы ч а ц ь: – „А-а, вось яно што!” „Ён блюзьнерыць!” „Ён жа сам кажа пра паганцаў!”

К н і ж н і к: – Мужы ізраільскія, глядзіце, ён гнобіць Закон перад паганцамі. Чуйце! Ён жа кажа пра гэта. Ён усюды навучае супраць народу, супраць Закону і супраць гэтага гораду. Ён грэкаў увёў у сьвятыню і апаганіў сьвятое месца.

*(Вэрхал у натоўпе. Чуваць галасы; „Гэта секта!” „Хопіць іх слухаць!” „Надакучылі!”)*

Г а м а л і э л ь: – *(выходзіць наперад і маўчыць. Вэрхал сьціхае.)*: – Ты быў маім добрым вучнем, Шаўль. І цяпер ты кажаш адваротнае таму, чаму навучаўся. Скажы, калі ты зьменіш Закон Майсея поглядамі Хрыста і гэта прымуць паганцы – эліны, грэкі і рымляне, то што застанецца ад народу Ізраіля, што тады нас згуртуе, што ўстрымае, калі мы станем такімі, як яны? Мы растворымся ў чужым моры, нават калі яно стане такім, як ты хочаш, пад далоняй Сына Чалавечага. Рым ня зьменіцца, эліны ня зьнікнуць. А што будзе з намі, юдэямі, калі мы страцім Закон і прымем рэлігію для ўсіх? Хто абароніць нас, Шаўль, на што мы станем абапірацца, дзе будзе наша будучыня?

*(Запанавала цішыня.)*

П а в е л: – Я не магу супярэчыць табе, настаўнік, годны Гамаліэль, бо супярэчнасьці няма. Хрыстос не адмяняе Закон, а сцьвярджае. Ні адна літара зь яго ня зьнікне з Пісаньня. Недавер шмат якіх сыноў Ізраілевых узьнікае ад таго, што яны не ўспрынялі Хрыста Месіяй. Але і Закон, і пракрокі, і Ян Хрысьціцель – усё кажа пра тое, што Месія ёсьць Хрыстос. Сыны Ізраіля, што супярэчаць гэтаму, чакалі Яго ў славе, у сіле і велічы. А Ён прыйшоў у зрэб'і, пешшу, у пыле, бадзёрачы слабых і лякуючы калек, ды прамаўляючы словы Закона. І шмат хто не пазналі Яго, не прынялі, бо высока думалі пра сябе.

Вялікі настаўнік, годны Гамаліэль, тое, пра што мы кажам – кожны сваё – ёсьць пытаньне веры і распазнаньня. Я лічу, што згодна з прароцтвамі і Законам, і ўсім жыцьцём Езуса Хрыстуса, Сын Чалавечы, які народжаны з Дзевы, прыйшоў на Зямлю, ёсьць Сын Божы, Месія, пра якога казалі прарокі. Ён прыйшоў да нас, каб быць для ўсіх, каб зьмяніць сьвет, бо мы, і толькі мы, чакалі Яго.

Ён сказаў, што сэнс чалавечага зямнога жыцьця – на Небе, у вечнасьці з Богам. і таму я – юдэй, я – фарысей нясу для паганцаў, элінаў і грэкаў Слова Яго, каб адракліся ад ідалаў і верылі Богу.

К н і ж н і к: – Гляньце, ён зноў пра сваё. Ён нічога не зразумеў, што сказаў Гамаліэль. Ён ізноў пра язычнікаў ды паганцаў. Куды ты цягнеш нас, Шаўль?

*(Ізноў вэрхал. Чуваць галасы: „Ён нічога ня чуе”, „Ён глухі!” „Ён асьлеп для Ізраіля.” „Надакучыла!” „Хопіць яго слухаць!”)*

В е т э р а н в о й с к а: – Паслухайце мяне, старога жаўнера. Павел праўду кажа. Справядліва жывеш, у Бога верыш – і тады на Небе табе залічыцца. Усё проста.

Г а н д л я р: – Ага, бо ты просты, як кол. Можна на галаве часаць.

В е т э р а н в о й с к а: – Ты глядзі, каб я тваю рэпу не пачасаў. Я ўмею.

Ф а р ы с е й: – Народ Ізраіля, не кідаймася ў бакі. Вы ж чулі – ён цягне нас да паганцаў. Што тут яшчэ казаць! Ён блюзьнерыць, а мы сварымся. Хай суд разьбярэцца!

Л і х в я р  Ш л ё м а: – (*выскоквае наперад*): – Народ, колькі можна гэта цярпець! Ён жа Трафіма з Эфесу, паганца вадзіў у сьвятыню. Сам бачыў. Ён супраць жыдоў, стаіць за паганцаў. Яго трэба забіць, як шалёнага сабаку.

*(Вэрхал у натоўпе. Чуваць крыкі: „Сьмерць! Сьмерць яму!” „На дрэва яго!”. „Чартоўскае семя”, „У яму яго! У яму!”)*

Ц э м а х: – *(падлятае да Паўла, круціцца і лямантуе)*: – А біце яго! Біце, біце яго! Біце яго!

*(Усе кідаюцца на Паўла і пачынаюць яго біць. Валяць за зямлю і топчуць нагамі.)*

Ш л ё м а: – Тысячніка паклікаць! Тысячніка клічце!

*(Зьяўляецца Тысячнік з Сотнікам і двума жаўнераім, кідаюцца ў натоўп і выхопліваюць Паўла.)*

Ц э м а х, Г а н д л я р, Ш л ё м а: – Забі яго! Забі яго!

Т ы с я ч н і к: – Што ён зрабіў?

Ц э м а х: – Сьмерць яму! Сьмерць!

Г а л а с ы  з  н а т о ў п у: – Забі яго! Плюе на Закон! Прадажнік! Падхвосьнік паганскі! Забі яго!

Т ы с я ч н і к: – (*крычыць*): – Ціха! Ціха вы! Маўчыце! *(Да Паўла)* – Што ты зрабіў?

П а в е л: – Нічога. Яны ўзлаваліся.

Т ы с я ч н і к: – У чым твая віна перад імі?

П а в е л: – Я не вінаваты.

Т ы с я ч н і к: – Так... Зараз даведаемся. *(Сотніку і жаўнерам)*: – Распрануць і бічаваць.

*(Сотнік дастае хлысты, а жаўнеры здымаюць адзежу з Паўла і валяць на зямлю.)*

П а в е л: – *(крычыць тысячніку)*: – Скажы, Тысячнік, хіба дазволена вам без суда бічаваць рымляніна?

Т ы с я ч н і к: – А ты, што – рымскі грамадзянін?

П а в е л: – Так, я рымскі грамадзянін.

Т ы с я ч н і к: – О, відаць, ты хітры жыд. Я за вялікія грошы набыў тое грамадзянства.

П а в е л: – А я нарадзіўся ў ім, у горадзе Тарс, што ў Цыліцыі.

Т ы с я ч н і к: – *(Сотніку)*: – Развязаць яго. Адвядзіце ў бок. *(Жаўнеры і сотнік адводзяць Паўла бліжэй да рампы і далей ад натоўпу. Тысячнік падыходзіць да Паўла і кажа)*: – Я ня ведаю, у чым ты вінаваты і бачу, што і яны таксама ня ведаюць *(ківае ў бок натоўпу, які працягвае гукаць „Забі яго!” і г. д. Да натоўпу:)* – Народ, суцішся. Той, каго вы патрабуеце забіць, пойдзе пад суд. Суд вырашыць. Гэта маё рашэньне. Разыходзьцеся.

*(Людзі пачалі разыходзіцца, крычучы і размахваючы рукамі; „Гэта ж пярэвярацень!” „Задаўбаць яго камянямі!” „На дрэва яго!” і г. д.)*

П а в е л: – Я ні ў чым не правініўся: ні супраць юдэйскага Закону, ні супраць Цэзара.

Т ы с я ч н і к: – Цяпер слухай. Хочаш у Ерусаліме стаць перад Сангедрынам і даказваць невінаватасьць?

П а в е л: – Я не пакрыўдзіў жыдоў нічым, і ты добра разумееш гэта. Я стаю перад судом цэзара, дзе мяне, калі б была віна, належыла б судзіць.

Т ы с я ч н і к: – і што?

П а в е л: – Я зьвяртаюся да цэзара.

Т ы с я ч н і к: – Ты зьвярнуўся да цэзара, да цэзара і паедзеш. *(Сотніку і жаўнерам)*: – Забірайце.

## С Ц Э Н А 11

(Рым. 60-я гады. Палац імпэратара Нэрона. Нэрон ходзіць па кругу, віхляе целам і апантана грае на жалейцы мэлёдыю на матыў „Чыжык-пыжык, дзе ты быў"... Імпэратар у парваных сандалях, апрануты ў жаночае кухоннае адзеньне, абрынданы і неахайны, на галаве начны каўпак. У залі акрамя Нэрона знаходзяцца Папея, Спорус, Піфагор, 1-ы і 2-гі слуга каля ўваходу і стары Сэнэка, які адзіны сядзіць на банкетцы і слухае музыкаваньне Нэрона.)

Н э р о н: – *(да ўсіх)*: – Мэлёдыя гэтай маёй геніяльнай пастаралі зьявілася, калі я ўчора выязджаў на вілу каля Рыму. Там сама прырода, сьвежая і прыгожая, створаная для сузіраньня багоў, навеяла мне гэты твор.

С э н э к а: – Гэта пастараль.

С п о р у с: – Геніяльна, імпэратар. Гэта музыка багоў *(какетліва)* і сьведчыць аб богападобнасьці яе творцы.

П а п е я: – О, так! Напаўняе цела і ўзбуджае пачуцьці.

П і ф а г о р: – Харашо звучыт.

П а п е я: – Што ён сказаў?

П і ф а г о р: – Гы-гы-гы! Атлічна.

Н э р о н: – Ён выказвае задавальненьне.

П а п е я: – Хто гэта? Першы раз бачу.

Н э р о н: – Гэта мой новы муж Піфагор, які будзе на будучым фэсьце „Квінквіналіі”, ён былы раб зь дзікай стараны.

П а п е я: – А Спорус цяпер хто?

Н э р о н: – Ах, мой мілы еўнух Спорус, як ты ведаеш, дарагая, гэта мая жонка зь мінулай „Квінквіналіі”. *(Спорус какетнічае.)* Сёньня вечарам на ўсю ноч мы едзем на баль у Палаціне. І каб усе былі. Злучка для ўсіх. З табой *(да Папеі)* толькі я. Астатнія – як хочуць.

П а п е я: – Ты дасканалы.

Н э р о н: – *(Зноў пачынае іграць „Чыжык-пыжык...”, падскокваць і віхляцца)*: – Мая геніяльнасьць, дарагая Папея, узьнікае сама па сабе. Я, калі хачу, дару яе людзям. Я люблю рымскі народ і стараюся зрабіць яму прыемнае *(грае на жалейцы)*. Маімі вершамі зачытваецца мой паэт Сэнэка. Бачыш, ён задумаўся.

С э н э к а: – Працягвайце пісаць, імпэратар.

Н э р о н: – і гэта ўсё, што ты сказаў.

С э н э к а: – Ты геній.

Н э р о н: – Я ведаю. Чаму ты сядзіш, калі я стаю?

С э н э к а: – Ты хацеў. *(Сядзіць.)*

Н э р о н: – Гэта было даўно. Ты стаў стары, Сэнэка. Ты мусіш зыйсьці з жыцьця. Прыдумай сам, як гэта зробіш. *(Заліваецца бясклапотным сьмехам.)* – „Аха-ха-ха-ха-ха!” Ах, уяўляю. *(Рагоча: „Аха-ха-ха-ха-ха!” Сэнэка глядзіць.)* – Заўтра я еду наперагонкі на калясьніцы. Ніхто ня можа зраўняцца са мной.

П і ф а г о р: – Гы-гы-гы. Эта клёва.

П а п е я: – Што ён сказаў?

Н э р о н: – Яму спадабалася. А што маўчыць мая Спорус?

С п о р у с: – Калі мой імпэратар на калясьніцы, мне здаецца, што сама Дыяна ляціць. *(Ігрыва ўзіраецца.)*

Н э р о н: – Так, дарагая Папея. Я стаў больш разумець сваю боскую прыроду і адчуваю, што я бессьмяротны. Ня думаю, што нешта падобнае могуць уявіць сьмяротныя, але адчуваю сябе адначасна мужчынам і жанчынай, быццам я лунаю над сьветам сьмяротных.

П і ф а г о р: – Гы-гы-гы.

Н э р о н: – Ты нешта сказаў, Піфагор?

П і ф а г о р: – Класна!

Н э р о н: – *(да Папеі і да ўсіх)*: – Гэта якасьць майго генія. Хаця, як ні дзіўна, мяне нарадзіла сьмяротная жанчына. *(Іграе на жалейцы і прытопвае.)*

П а п е я: – *(набліжаецца да Нэрона і кажа, каб ніхто ня чуў)*: – Мой імпэратар успомніў матку Агрыпіну. Мушу яго папярэдзіць і адчыніць таямніцу.

Н э р о н: – Якую таямніцу ты хочаш адчыніць?

П а п е я: – Агрыпіна ўзлавалася на свайго сына, што адхіліў яе ад справаў імпэрыі і аддаліў ад уплыву на яго. Яна хоча паставіць на імпэратара Гая Рубэліўса Плаўта, а сына свайго, Нэрона, цябе, атруціць сёньня на Палаціне. А калі ня ўдасца, – то забіць. Хто гэта зробіць – невядома. Але ўсё сёньня ноччу.

Н э р о н: – *(нейкі час маўчыць)*: – Ага-а. *(Панура глядзіць на ўсіх. Паўза. Узіраецца на Сэнэку)* – Мудры настаўнік. Ты мусіш рыхтавацца ў дарогу, дык не марудзь. *(Рагоча: „Аха-ха-ха-ха-ха!”)* – Мне трэба пагаварыць з Папеяй пра нашае захапленьне. *(Залівіста)* Аха-ха-ха-ха-ха! *(Сэнэка ўстае і йдзе да выхаду. Перад выхадам абарочваецца і з усьмешкай глядзіць на Нэрона. Нэрон асекся. Сэнека выходзіць.)*

Н э р о н: – *(У ярасьці)*: – Ты, псіна! Здохні, гіена! Сабакі цябе заграбуць! *(да Піфагора і Споруса)*: – Вы! Зьнікайце адсюль і надоўга. Хаця, стоп! Піфагор! Пакліч мне цэнтурыёна Аполаса і бягом! *(Піфагор вылятае.)*

П а п е я: – Пра гэта мне сказала матка Плаўта, Юлія, бо баіцца Агрыпіны. Яна проста здала Агрыпіну мне.

Н э р о н: – Гэтая нікчэмнасьць Плаўт.

П а п е я: – Нарыў трэба выдаляць, не марудзячы. Тым больш, што невядома, хто павінен забіць.

Н э р о н: – Яна скажа хто, калі заплача крывавымі сьлязьмі.

П а п е я: – Магчыма. Але дазнаньне расхістае імпэрыю. Трэба вырашыць ціха, адным махам.

*(Убягае цэнтурыён Аполас.)*

А п о л а с: – Ваше императорское величество, прибыл по вашему указанию.

Н э р о н: – Неадкладна знайсьці і арыштаваць Агрыпіну. Не публічна. Вывесьці за горад і забіць любым спосабам. Цела спаліць. Жаўнераў адпусьціць. За пакараньне адказваеш асабіста. Паведаміць мне аб выкананьні. Сёньня. Заўтра атрымаеш 40 дынараў.

А п о л а с: – Рад стараться, ваше императорское величество. Разрешите идти.

Н э р о н: – Ідзі. *(Цэнтурыён зьнікае.)* – Балван.

П а п е я: – Што ён сказаў? Гэта хто?

Н э р о н: – Дзікун з паўночнага краю Зямлі. Варвар для спэцыяльных спраў. Ён вычышчае цяпер Рым ад шкоднай жыдоўскай секты нейкага Хрыста, якога павешалі ў Ерусаліме.

П а п е я: – Я ведаю жыдоў. Іх лепш ня рушыць.

Н э р о н: – Чаму лепш?

П а п е я: – Могуць другі раз Рым спаліць.

Н э р о н: – Усіх выражам. Ня будзе каму паліць. Іхняга галоўнага разбойніка, нейкага Паўла, які сказаў, каб жанчыны не злучаліся з мужчынамі, я загадаў кінуць сабакам. Дык дурні ў Сэнаце закрычалі, што кідаць сабакам не па закону, бо ён грамадзянін Рыма. Заўтра яму адсякуць галаву. *(Ськідае начны каўпак.)* – Ты, Папея, не выходзіш з палацу, пакуль ня верніцца Цэнтурыён. *(Адзявае на галаву лаўравы вянок і выходзіць прэч.)*

П а п е я: – *(пляскае ў далоні. Уваходзіць Эўсэбія.)*: – Накіруй Хлою ў турму Мамэрцінум і перадай мой загад, каб прывялі да мяне юдэя Паўла, які там сядзіць.

*(Эўсэбія выходзіць.)*

М а р а л ь: – *(выходзіць на авансцэну)*: – Я Мараль. Ніводнага слова тут не магу я сказаць, і вусны мае маўчаць. Гэта быў сьвет, які цяжка ўявіць. Мяне там няма. і не было. Тыя людзі ня ведалі нічога духоўнага. Капашэньне ў роскашы, у брудзе адносін, у распусьце і забойствах замяніла ім радасьць жыцьця.

І ўсё гэта разбурылася, упала і зьнікла перад вялікай ахвярай Хрыста на Крыжы.

Толькі ўбачыўшы Рым, адчуваеш глыбіню Хрысьціянства. Як напісана, і аддаў іх Бог праз пажадлівасьць іхных сэрцаў нячыстасьці, каб яны самы зьнясьлавілі свае целы. і выдаў іх Бог ганебным страсьцям. Іхныя жанчыны зьмянілі згоднае з натурай жыцьцё на тое, што супраць натуры. Таксама і мужчыны, пакідаючы натуральнае сужыцьце з жанчынай, сталі пажадлівымі адзін да аднаго. Яны поўныя несправядлівасьці, нягоднасьці, прагнасьці і злосьці, напоўненыя зайздрасьцю і забойствам, подступам, зласьлівасьцю і абмовай. Яны паклёпнікі, ненавісьнікі Бога, пыхлівыя, самахвалы, выдумшчыкі ліхога, вераломныя, пазбаўленыя любові, бязьлітасныя.

Апосталы Хрыста былі забітыя. Яны сталіся асуджаныя на сьмерць, як зерне, якое кідаюць на згубу ў ральлю, каб закаласілася поле.

Г і с т о р ы я: – *(выходзіць зь іншага боку)*: – Я Гісторыя. Я без пачуцьцяў, бяз хвалы й захапленьняў сузіраю даўно гэты сьвет. Бачу, як ахвярна трывае культура сярод разбуральнікаў. Назіраю, як у іншай форме вяртаецца дзікасьць і зло, калі ўпадае, падае вера і зьнікае мараль. І бачу я добра з гары, што ня хлебам, і нават ня працай адной, трываюць народы, але Духам і верай у праўду Тварца.

# С Ц Э Н А 12

(Папея, Павел, Эўсэбія, Лірніца.)

Э ў с э б і я: – *(уваходзіць)*: – Ён тут.

П а п е я: – Хай зойдзе.

*(Уваходзіць Павел.)*

П а п е я: – Ты Павел, апостал Хрыста?

П а в е л: – Я апостал Павел.

П а п е я: – Ці праўда, што ты супраць, каб жанчыны злучаліся з мужчынамі?

П а в е л: – Няпраўда.

П а п е я: – Ты жанаты?

П а в е л: – Не.

П а п е я: – Чаму?

П а в е л: – Я пасьвяціў жыцьцё Богу Езусу Хрыстусу.

П а п е я: – І ты ніколі не любіўся целам з жанчынай?

П а в е л: – Не.

П а п е я: – А табе хацелася?

П а в е л: – Так. Я быў маладым.

П а п е я: – А чаму не любіўся? Гэта так прыемна.

П а в е л: – Я імкнуўся жыць духоўным жыцьцём.

П а п е я: – Хіба гэта перашкода паласкатаць жанчыну, якую хочаш?

П а в е л: – Не перашкода, калі ў Законе. Сьвятары жэняцца, а мы, фарысеі, мелі абавязак жаніцца.

П а п е я: – Дык што перашкодзіла?

П а в е л: – Пачуцьцё віны. Я перасьледваў хрысьціян, арыштоўваў, кідаў у цямніцу толькі за тое, што яны верылі ў Езуса Хрыстуса. Але аднойчы Езус зьявіўся мне ў бляску нябеснага сьвятла і спытаў, навошта я перасьледую Яго на Зямлі? Бог сказаў мне йсьці ў Дамаск, і там я зразумеў, што Хрыстос усклаў на мяне абавязак несьці Эвангельле праўды усім людзям на сьвеце.

П а п е я: – Юдэі выдумшчыкі і вераць у свае выдумкі. Але, можа, так і было.

Ты не хацеў бы ажаніцца, Павел? Ёсьць вельмі прыгожая дзяўчына з круглымі формамі, навучаная ўсходнім ласкам. Мне яна падабаецца. Жыцьцё ўцякае. Ты яшчэ можаш злавіць яго. Нішто не перашкаджае. І вера твая не пярэчыць. Гэта такая раскоша ляжаць з маладой, чуць пах яе валасоў, цалаваць вінаград яе персяў, адчуць кветку яе лагоды. Ты столькі абмінуў у жыцьці, Павел. Яшчэ ня позна. *(Павел моўчкі разглядае Папею. Папея пляскае ў далоні. Уваходзіць Эўсэбія.)* – Распраніся, Павел хоча назіраць твае танцы. *(Да Паўла)* – Гэта Эўсэбія.

*(Зноў пляскае ў ладкі. Зьяўляецца Лютніца зь лютняй і пачынае іграць. Эўсэбія выходзіць у кароткай туніцы, пачынае танцаваць перад Паўлам, гульліва пазіраючы і віхляючы целам. Павел моўчкі задуменна глядзіць, як танцуе Эўсэбія. Танец канчаецца.)*

П а в е л: – Дзякуй, Эўсэбія за труд. Ты танцавала.

Э ў с э б і я: – Ох, нават стамілася. *(Сядае на калені Папеі.)* – Прыўкрасная Папея, скажы, табе спадабалася? *(Абымае яе за шыю.)*

П а п е я: – Ты дасканаласьць, Эўсэбія. Ідзі, прывітай Паўла.

*(Эўсэбія гульліва падыходзіць да Паўла.)*

П а в е л: – *(спакойна)*: – Сядай сюды, Эўсэбія *(паказвае на банкетку, на якой сядзеў Сэнэка. Эўсэбія сядае.)* – Я наслуханы, годная Папея, аб хараstве і розуме жонкі цэзара. Заўтра мне адсякуць галаву. Растлумач мне, што хочаш ты ад мяне?

П а п е я: – *(паказвае Лютніцы і Эўсэбіі, каб выйшлі. Эўсэбія і Лютніца выходзяць.)*: – Дзьве рэчы. Першая. Я спрыяю юдэям. Калі б ты жаніўся на Эўсэбіі, табе захавалі б жыцьцё. Другая. Хачу ведаць, чаму ты і такія, як ты, супраць любові, супраць жаночых ласкаў і сужыцьця.

П а в е л: – Я ўжо адказаў.

П а п е я: – Але не патлумачыў. Людзі створаныя для любові паміж сабой. Яны могуць кахацца зь кім хочуць і колькі хочуць. Тут усе роўныя: і маладыя, і старыя, і мужчыны, і жанчыны. Тут воля і жаданьні. Гэта ж прыемна.

П а в е л: – І дзеля чаго гэта?

П а п е я: – Дзеля задавальненьня, Павел. Дзеля задавальненьня прыродай чалавека.

П а в е л: – А дзеці павінны быць?

П а п е я: – Вядома, павінны.

П а в е л: – А сям“я?

П а п е я: – і сям“я.

П а в е л: – Ты ўпэўнена, Папея, што пры ўсеагульным сужыцьці ўсіх з усімі павінна быць сям“я?

П а п е я: – *(думае)*: – Па-праўдзе, можа і ня быць. Але ж яна ёсьць.

П а в е л: – Спынюся на гэтым. Я ўжо апошнія гадзіны тут. Заўтра сьмерць.

Я апостал Езуса. Мне дадзена здольнасьць аздараўляць невылечных, ведаць мовы і разумець, што будзе далей.

Тое, што тут называюць любовяй – гэта вымога цела, вымога, якая дадзена для працягу роду, але апушчана людзьмі для задавальненьня хаценьняў, і людзі становяцца нявольнікамі ўцех, нават ня ведаючы, што такое каханьне і што ёсьць любоў.

Любоў – гэта яднаньне ў Духу чалавека з Богам, паміж мужам і жонкай, мужчынам і жанчынай, гэта пачуцьцё і зычэньне дабра між людзьмі, гэта адчуваньне іншага, як самога сябе, і гатовасьць ахвяравацца сабой дзеля таго, каго любіш, гэта жаль да церпячага і гарушчага; жаль – як найвялікшая любоў, якая зыходзіць ад Бога. і ўцеха цела падпарадкавана такой любові.

Любоў доўгацярплівая, ласкавая, не пыхлівая, не зайздросьціць, не ганарыцца, не бессаромная, ня гневаецца, ня памятае зла, радуецца разам з праўдай, яна верная, церпіць і прабачае.

Як добра, калі муж і жонка жывуць у такой любові, калі кожны дзень – гэта шчасьце, і калі дзеткі растуць ласкавыя, гледзячы на пашану і любоў бацькоў.

П а п е я: – Наша дзяўчынка памерла ў чатыры месяцы. Я была для яе ласкавай.

П а в е л: – Целы нашыя не для распусты. Гэта сьвятыня, дом Духа Сьвятога, які ў кожнага з нас ёсьць. Беражэм жа наш дом і сьвятыню нашу.

Праз пажадлівасьць сэрцаў і розум распусты шмат якія людзі няслаўяць цела сваё ў нячыстасьці, у ганебных страсьцях насупраць натуры. Але там, дзе распуста і збочаныя адносіны, там няма любові, але фальш, несправядлівасьць і злосьць. Там няма шчасьлівай сям'і і справядлівага грамадзтва, і добрых людзей. Там няма Бога.

П а п е я: – Ні Юпітэр, ні Юнона таксама ня ёсьць сярод нас. Але калі мы прыносім ахвяры Юпітэру, ён можа дапамагчы. Якую ахвяру трэба Хрысту, каб мець шчасьце, пра якое ты кажаш?

П а в е л: – Ня трэба ахвяры. Толькі вера ў Яго і любоў, пра якую я тут кажу. Бог можа быць у кожным з нас як частка Духа Сьвятога, калі верым у Яго, жывем па Яго любові і запаведзях. Тады Ён дапамагае і адчыняе для нас шлях у Неба для вечнага існаваньня.

П а п е я: – Рым не прызнае такой рэлігіі.

П а в е л: – Ад усяго, на чым стаіць Рым, не застанецца каменя на камені. Ён разваліцца сам, зьнікне ад упадку маралі. Ідзе новая рэлігія. Ідзе новы чалавек – чалавек вечнай Душы і вечнага Духа, які будзе імкнуцца жыць па Запаведзях, не паддавацца злу, распусьце і страсьцям, будзе хацець палепшыць сваю Душу і дасягнуць жыцьця вечнага побач з Богам, які ёсьць Тварэц.

П а п е я: – Я адчуваю, што ты кажаш праўду. Гэта нешта высокае, па-за Зямлёй. Калі я стану верыць гэтак, як ты, мяне тут заб'юць. Я бачыла сон, як каршун б'е галуба. *(Маўчанка.)* – Ты ведаеш – скажы, што будзе са мной?

П а в е л: – Ведаю, але не скажу, бо нічога зьмяніць немагчыма.

П а п е я: – Я памру?

П а в е л: – Калі настане час. *(Маўчанка.)* Тады ня бойся. Успомні, пра што мы тут гаварылі і пакліч да сябе Хрыста.

П а п е я: – *(падумаўшы, пляскае ў далоні. Уваходзіць Эўсэбія.)*: – Пакліч Хлою, хай адвядзе Паўла, адкуль прывяла.

*(Эўсэбія і Павел выходзяць. Папея сядае ў задумлівасьці і ціха плача.)*

Г і с т о р ы я: – *(выходзіць на авансцэну пасьля доўгай паўзы)*: – Я Гісторыя. Я бесстароньняя. Я пацьвярджаю, што тады і там, дзе была прызнанай распуста, там горшыўся чалавек і ўрэшце распадалася ўсё. Вялікі блуд пахаваў імпэрыю.

На наступны год пасьля забіцьця апостала Паўла, цяжарную жонку сваю, прыўкрасную Папею, імпэратар Нэрон забіў нагой у жывот. Адбыўся выкідак і сьмерць жанчыны. Праз два тыдні імпэратар ажаніўся зноў, ладзячы начныя оргіі і звальны блуд у палацы сваім на Палаціне.

Кажуць, гісторыя паўтараецца. і гэта праўда, бо людзі, як правіла, ніколі ня вучацца на гісторыі. А дарма. Гісторыя Рыма магла б стаць добрай навукай для сучасных, калі б яны ўмелі думаць і мяне вывучаць.

С п р а д л і в а с ь ц ь: – *(выходзіць на авансцэну з другога боку)*: – Я Справядлівасьць. Падзеі гісторыі, як і ўсе падзеі ў жыцьці, бываюць справядлівыя і несправядлівыя. Лёс гісторыі народаў ёсьць часам крыўдны і несправядлівы. Але тое, што зьнік і разваліўся Рым, – гэта ёсьць найвялікшая Боская справядлівасьць. Зьнікла язва, што труціла ўсё чалавецтва.

Метастазы яе засталіся. Язва імпэрыі зь яе імкненьнем да неабмежаванай улады, дабрабыту, раскошы і паразітызму за кошт людзей і народаў – гэта тупіковы шлях існаваньня, самым дрэнным вынікам якога ёсьць тое, што горшыцца чалавек. Пазбаўленьне ад імпэрыі і духоўнае адраджэньне можа яго ўратаваць.

Толькі не здараецца яно без ахвяр. Барацьба са злом – гэта змаганьне за духоўнае існаваньне. Ахвярамі нявіннай крыві ўсланы шлях змаганьня. і найвялікшай ахвярай гісторыі дзеля паратунку людзей стала ахвяра Хрыста – Сына Божага і Сына Чалавечага.

Славім Яго! Славім мільёны загіблых і замучаных за праўду і справядлівасьць, за сьветлага чалавека, за вечнасьць Духа яго існаваньня, за шчасьце, якое ёсьць. За шчасьце, якое ёсьць!

*(Павольна зачыняецца заслона.)*

К а н е ц

26.07.2023 г.

## З А Ц Е М К І

**Стэфан** – першапакутнік за Хрыста, адзін з сямі памочнікаў апосталаў ў Ерусалімскім Касьцёле.

**Мяняла (Ліхвяр)** – чалавек, які абменьваў розныя грошы па курсу, які сам устанаўліваў. Ахвяру на Сінагогу нельга было рабіць рымскімі дынарамі, толькі юдэйскімі сіклямі: мянялы абменьвалі вельмі дорага, 70 адсоткаў бралі сабе. Такое ліхвярства было паразітным. Менавіта такіх мянялаў і гандляроў Хрыстос павыганяў з юдэйскай сьвятыні.

**Сангедрын** – вярхоўны рэлігійны суд юдэйскіх сьвятароў. Разглядаў рэлігійныя справы. Склікаўся і засядаў штодня, акрамя суботы.

**Каменяваньне** – забіцьцё чалавека каменьнямі па прысуду суда (часам – без суда, па волі натоўпу).

**Гамаліэль** – фарысей, вучоны законазнавец.

**Барнаба** – апостал „ад 70-ці”. Дзейнічаў разам з апосталам Паўлам.

**Дыяніз Аэрапагіт** – вучань апостала Паўла. Потым епіскап у Атэнах.

**Тысячнік** – кіраўнік у рымскім войску.

**Люцыус Сэнэка** – рымскі паэт і філосаф-стоік, настаўнік і выхавальнік Нэрона. Скончыў жыцьцё самагубствам па загаду Нэрона.

**Квінквіналія** – фэстываль у гонар Нэрона. Рабіўся кожныя пяць гадоў.

**Цэнтурыён** – малодшы афіцэр у рымскім войску, які ўзначальваў цэнтурыю (50- 100 жаўнераў).

**Мамэрцінум** – каменная турма каля Форума ў Рыме, выкапаная ў падзямельлі яшчэ ў VII ст. д. н. э. Прызначалася для ўвязьненьня асабліва важных і небясьпечных для Рыма людзей.

**Сікль** – юдэйская манета вагой 11,4 г. золата альбо срэбра. 1 сікль раўняўся прыблізна 4,5 рымскага дынара. 40-50 дынараў – гэта месячная зарплата рымскага легіянера.

**Палаціна** – узгорак у Рыме, дзе быў адзін з палацаў Нэрона, у якім ладзілі балі, блуд і начныя оргіі.

## ТЛУМАЧЭНЬНЕ РОЛЯЎ

Усе ролі п’есы нескладаныя і напісаны „адкрытым вобразам”, акрамя роляў Папеі і Сэнэкі. Папея не выпадае з жорсткага рымскага соцыюма, але валодае пачуцьцём мацярынства і натурай, здольнай да ўсьведамленьня сэнсу жыцьця.

Люцыус Сэнэка (як і Папея-Сабіна) ёсьць гістарычная асоба, вялікі рымскі філосаф-стоік і клясычны паэт, выхавальнік і настаўнік Нэрона. Калі Нэрон адчуў смак улады, ён вырашыў збавіцца ад апекі Сэнэкі і шляхам інтрыгі і абвінавачваньняў зьвесьці яго са сьвету. Але прыродны розум і красамоўства Сэнэкі ўратавалі яго ад сьмерці.

У 11-й сцэне п’есы стары Сэнэка моўчкі прысутнічае і назірае некіруемы плод свайго выхаваньня, якое ня спраўдзілася. Нэрон адчувае маўклівае вяршэнства Сэнэкі. Гэта яму, які стаў лічыць сябе богам, робіцца невыносным. Тое разумее Сэнэка. Але годнасьць філосафа і вялікасьць паэта застаюцца пры ім.

Нэрон аб’яўляе свой вырак сьмерці Сэнэку праз самагубства, якое мусіць учыніць над сабой філосаф. Пазьбегнуць выраку Нэрона было немагчыма. Сэнэка ведае гэта. (Інакш сьмерць стала б страшнай, пакутлівай і ганебнай.)

Гэта тое, што трэба разумець актору пра паводзіны і сэнс маўклівай прысутнасьці Сэнэкі ў 11-й сцэне.

* * *

Гісторыя захавала падрабязнасьці самагубства Сэнэкі. Ён парэзаў сабе вены. Сьмерць была доўгай і пакутлівай.

Імпэратар Нэрон (37-68 гг.) быў „арыгіналам”, але ў цэлым мала чым адрозьніваўся ад іншых кіраўнікоў Рыма. Пры ім былі жорсткія ганеньні на хрысьціян, адбыўся вялікі пажар Рыма, буяла збочанасьць і распуста. Некаторыя гісторыкі лічылі яго паўвар’ятам. Факт у тым, што гэта была крайне разбэшчаная і паталагічна самазакаханая асоба, здольная на неадэкватныя ўчынкі і паводзіны. Ён мог, напрыклад, зьявіцца публічна ў жаночай бытавой вопратцы, у кухонным адзеньні, апушчаны, апрануты абы як. Люмпэну тое падабалася. Плебс бачыў у імпэратары „свайго”.

Нэрон пісаў вершы (якія яму папраўляў, а часам і пісаў, Сэнэка), музыкаваў, лічыў сябе геніям, паўбогам, ладзіў фэстывалі ў свой гонар, удзельнічаў у спаборніцтвах на калясьніцах і нязьменна „перамагаў”, нават калі звальваўся з калясьніцы. У міжчасьсі „раздаваў” кары сьмерці, зьніжаў падаткі для народа, распутнічаў і т. п.

Нягледзячы на распуснасьць, блуд, дзікасьць паводзінаў і выробленую жорсткасьць нораваў, распуста ў Рыме афіцыйна не ўхвалялася (сучасны „двайны стандарт”) і ў грамадзтве лічылася ганебным захаваньнем.

Былі людзі, што пазьбягалі ганебных паводзінаў і адмяжоўваліся ад вульгарных рымскіх звычак. Паэт Вергіліўс (Вергілій), напрыклад, характарызаваўся сьціпласьцю, лічыў вясковае жыцьцё лепшым, чым разбэшчанае ў Рыме, хоць быў рымскім патрыётам. Але ўсё вызначаў Рым.

# КВЕТКА ШЧАСЬЦЯ

*(Фантасмагорыя. П’еса для маладзёвага тэатра)*

**Д з е й н ы я а с о б ы:**

Л я в о н, 34 гады

Л ё н я, жонка Лявона – 33 гады

**Іхныя дзеці:**

З ь м і т р о к, 11 гадоў

З о с ь к а, 10 гадоў

Я н э ч к а, 8 гадоў

М і к і т к а, 6 гадоў.

С а в а

В о ж ы к

З а я ц

К а р а л е в а Н о ч к а

К н я з ь л е с у

К н я ж ы н а л е с у

Ч о р т М а с к о ў с к і

Хлопцы, дзяўчаты, маладыя мужчыны і жанчыны – удзельнікі Купальля

*(Падзеі адбываюцца ў Купальскую ноч ў Беларусі)*

## С Ц Э Н А 1

(Позьні летні вечар. Сьцямнела. Хата Лявона і Лёні.
Дзеці кладуцца спаць.)

З о с ь к а: – А ці ведаеш, Зьмітрок, куды гэта тата з мамай зьбіраюцца?

З ь м і т р о к: – Ведаю. Сёньня ўся вёска ідзе на гару праз вагонь скакаць. Дарослыя хлапцы нават кола паднялі.

Я н э ч к а: – А кола навошта?

З ь м і т р о к: – Будуць круціць, потым падпаляць. Дык будзе, як сонца.

Я н э ч к а: – От, каб паглядзець!

М і к і т к а: – Татка сказаў – спаць, і каб не валушыліся.

З ь м і т р о к: – Во, йдуць. Лажысь!

*(Дзеці хаваюцца пад посьцілкі і ўдаюць, што сьпяць. Асьцрожна ў пакой зазіраюць Лявон і Лёня.)*

Л ё н я: – *(Ціхім голасам, каб не разбудзіць дзяцей.)*: – Ну, ужо паснулі, сьпяць.

Л я в о н: – Добра, хай сьпяць. Тады хадзем, толькі гармонік вазьму.

Л ё н я: – Навошта той гармонік на Купальле. Яшчэ Купала пакрыўдзіцца. Песьні трэба сьпяваць.

Л я в о н: – Дык жа танцаваць захочуць.

Л ё н я: – А кінь ты. Гэта ж не вечарынка.

Л я в о н: От, вазьму, можа, спатрэбіцца.

*(Выходзяць. Нейкі час цішыня. Потым дзеці прыпадымаюцца і разглядаюцца па баках.)*

М і к і т к а: – А я ведаю.

З ь м і т р о к: – Што ты ведаеш?

М і к і т к а: – Ведаю, куды мама з татам пайшлі.

З ь м і т р о к, З о с ь к а, Я н э ч к а: – Куды?

М і к і т к а: – Кветку шчасьця шукаць, от што.

З ь м і т р о к: – А, дык і я ведаю. Сёньня Купальле, толькі сёньня ў начы гэтая Кветка і цьвіце. Во як.

З о с ь к а: – Дык што?

З ь м і т р о к: – Хто знойдзе – таму шчасьце.

Я н э ч к а: – Пэўня, прыгожая.

З ь м і т р о к: – Дык жа ніхто ня бачыў.

М і к і т к а: – А я ведаю.

У с е: – Ну? Што ведаеш?

М і к і т к а: – Яна такая чылвоная-чылвоная.

З ь м і т р о к: – Скуль ты ўзяў?

М і к і т к а: – Ну, калі плыгожая, то чылвоная.

З о с ь к а: – Малы зноў выдумляць пачаў. Але слухайце, пайшлі ў лес! Можа, знойдзем.

Я н э ч к а: – От тата з мамай узрадуюцца, калі кветку знойдзем!

З ь м і т р о к: – Ноччу? У лес? Што вы гаворыце, дзеткі? Памрыцё ад страху.

Я н э ч к а: – А вось і не памром, і кветку знойдзем.

М і к і т к а: – і я не памлу.

З о с ь к а: – Кажуць, што той, хто такую кветку на Купальле знойдзе, дык ніколі ўжо не памрэ.

М і к і т к а: – Не хачу быць вечна малым.

З ь м і т р о к: – Затое будзеш вечна жывым.

М і к і т к а: – Хачу быць далослым.

Я н э ч к а: – Пэўна, як станем дарослымі, дык будзем жыць вечна. Ці чуеце, гэта ж тата з мамай і ўсе людзі будуць жыць вечна.

З о с ь к а: – Ты спачатку кветку знайдзі, а тады расказвай.

Я н э ч к а: – Слухайце ўсе. Пайшлі шукаць. Я не баюся.

З о с ь к а: – і я таксама, але як Зьмітрок скажа.

М і т к і т к а: – і я не баюся.

З ь м і т р о к: – А што? Чаго баяцца! Уставайма. За мной! *(Бяжыць да дзьвярэй)* Во, і дзьверы адчыненыя. Гайда! Йдзем.

*(Дзеці выбягаюць з дому.)*

## С Ц Э Н А 2

(Дзеці ідуць па лесе, чапляючыся за кусты і разглядаючыся па баках.)

З о с ь к а: – Але ж і цёмна!

Я н э ч к а: – Гляньце, вунь у небе зорка гарыць.

З ь м і т р о к: – А я ведаю: гэта Паўночная зорка. Яна заўсёды на адным месцы блішчыць.

С а в а: – *(крычыць з дрэва)* А вы чаго тут галёкаеце ў маім лесе?

*(Дзеці ад страху зьнямелі і маўчаць.)*

З ь м і т р о к: – А ты хто?

С а в а: – Я сава. Я ў начы лятаю. А вы тут чаго швэндаецеся?

З о с ь к а: – Сава, а ты дзе?

С а в а: – На дрэве сяджу і ўсё бачу.

Я н э ч к а: – Сава, а ты якая: добрая ці дрэнная?

С а в а: – Я добрая. Але калі будзеце галёкаць, то магу даць.

М і к і т к а: – Доблая сава на длэве сядзіць і ўсё бачыць.

Я н э ч к а: – Добрая Сава, ты ж усё бачыш, а ці відаць табе Кветка?

С а в а: – Якая яшчэ кветка?

З о с ь к а: – Кветка Купальская.

Я н э ч к а: – Тая, што дае шчасьце.

З о с ь к а: – Так, шчасьце, і мы шукаем яе.

С а в а: – Але ж вы й дурныя. Вы хочаце знайсьці шчасьце, нічога не рабіўшы. Дзеля шчасьця працаваць трэба.

М і к і т к а: – А мы як выласьцем, дык плацаваць будзем.

Я н э ч к а: – Добрая Сава, а мы хочам Кветку для мамы з татам знайсьці, каб яны жылі і не паміралі, і каб усё было вечна-вечна.

С а в а: – Бачу, што вы добрыя дзеці, калі пра бацькоў дбаеце. Цяпер бо сьвет такі зрабіўся, што людзі толькі пра сябе думаюць. А хто толькі пра сябе думае, той сам і застанецца.

Цяпер слухайце. Далёка ў гушчары, сярод векавых дрэў, у хваёвым замку жывуць лясны Князь і Княжына. Яны ўсё ведаюць. Каб туды трапіць, вас мусіла б спаткаць каралева Ночка. Але яна спаткае толькі тады, калі вы ёй спадабаецеся. Кіруйцеся на зорку, пакуль яна блішчыць, і не галёкайце мне тут, мышэй не пужайце.

З ь м і т р о к: – Дзякуй, добрая Сава. Зычым табе доўга жыць у гэтым лесе. А мы ўжо пойдзем. *(Ідуць па лесе.)* – Пазірайце на зорку, як сказала добрая Сава, каб ня збочыць.

М і к і т к а: – А мне дык зусім ня стлашна.

З ь м і т р о к: – Ціха! Чуеце, нехта фырчыць.

З о с ь к а: – Ага, нейкі піск чуваць.

Г о л а с: – Фыр-чых, фыр-чых! От ускочыў, дык ускочыў. Пэўня, ўжо і памру тут. Фыр-чых, фыр-чых! Охо-хо-хо-хо, фыр-чых, фыр-чых!

З ь м і т р о к: – Гэй, ты там хто? *(Цішыня.)* Адзавіся, ты хто?

Г о л а с: – Я вожык.

З ь м і т р о к: – Ну, дык чаго ты фырчыш?

В о ж ы к: – Я ў яме.

З ь м і т р о к: – Дзе ты ў яме?

В о ж ы к: – А тут во, за хмызам. *(Дзеці кідаюцца за хмызьняк.)*

З о с ь к а: – Вожык, а што ты там робіш?

В о ж ы к: – Што раблю? Гіну, во. Уваліўся і ня вылезу. Памру тут.

З ь м і т р о к: – Не памрэш, мы цябе дастанем.

В о ж ы к: – Як жа вы мяне дастанеце, я ж калючы.

З ь м і т р о к: – Не бядуй. Ты там у клубочак скруціся, а мы дастанем. *(Здымае з сябе кашулю і зьвешваецца над ямай.)* – Дзяўчаты, трымайце мяне за ногі, каб не ўваліўся. Я вожыка ў кашулю закручу і дастану.

*(Дзеці дастаюць Вожыка і адносяць яго далей на паляну.)*

Я н э ч к а: – Бяжы, Вожык, і ня ўвальвайся.

В о ж ы к: – От, дзякую вам, добрыя дзеці. Вы мяне ўратавалі. Хай вам шчасьціць. Расьціце вялікія.

М і к і т к а: – Бывай, вожык.

З ь м і т р о к: – Зараз пярэйдзем праз лажобінку і пойдзем па зорцы ў той малады лясок. *(Ідуць.)*

М і к і т к а: – А мне дык ужо і спаць хочацца.

З о с ь к а: – Ну, во, яшчэ адзін вожык знайшоўся: спаць яму хочацца!

З ь м і т р о к: – А ты, Мікітка, на хаду пасьпі – ножкамі перабірай і сьпі сабе. Галава сьпіць, а ногі йдуць.

М і к і т к а: – Дык жа мне вочы зьліпаюцца.

Я н э ч к а: – Ой, слухайце! Ціха! Там нехта плача.

Г о л а с: – А-я-ёй, а-я-ёй. і што ж мне рабіць? Гіну. Ваўкі зьядуць. А-я-ёй, а-я-ёй!

З ь м і т р о к: – Гэй, ты там хто? *(Маўчанка.)* – Ты хто там, пытаюся?

Г о л а с: – А ты хто?

З ь м і т р о к: – Я Зьмітрок.

Г о л а с: – А я заяц. Гіну, во. Дапамажы мне, Зьмітрок.

*(Дзеці кідаюцца на голас Зайца і бачаць, што паміж двух дрэўцаў ушчыміўся Заяц і ня можа зварухнуцца: ні ў тыл, ні ўперад.)*

Я н э ч к а: – Зайчык, бедненькі.

З о с ь к а: – Ой-я-ёй-яёй! Зайчык, куды ж ты ўскочыў!

З а я ц: – Дапамажыце мне, добрыя дзеці, бо сам я ня вылезу. Мяне воўк зьесьць.

З ь м і т р о к: – Ня зьесьць, ня бойся. Мы цябе выратуем. Дзяўчаты, бярэцеся за тое дрэўца і нагінайце на сябе, а мы зь мікіткам бярэмся за гэтае і – нагінаем. Ну, р-раз – пацягнулі! Гоп! Заяц, выскоквай!

З а я ц: – Дзякуй вам, от, дзякуй! Уратавалі мяне! Вы добрыя дзеці. *(Адбягае.)* – Слухайце, туды, куды вы йдзяцё, бойцеся Чарта Маскоўскага. *(Адбягае.)*

З о с ь к а: – *(ідучы)*: – Пра якога гэта чарта сказаў заяц, Зьмітрок, а?

З ь м і т р о к: – Ня ведаю.

Я н э ч к а: – Страшна робіцца.

М і к і т к а: – А мне ня стлашна.

З о с ь к а: – Чуеце: вада булькоча.

З ь м і т р о к: – Во, рэчачка цячэ праз лес.

З о с ь к а: – А на беразе – бачыш? Хто там?

К а р а л е в а Н о ч к а: – *(сядзіць на камені)*: – Ідзеце сюды, ідзеце. Я Каралева Ночка. Вы мне спадабаліся за спагадлівасьць да жывога стварэньня і за дзеяньні. За вашу дабрыню я таксама дапамагу вам. Добрая Сава мне сказала пра вас. Вы шукаеце Кветку Шчасьця для сваіх бацькоў. Гэта добры намер.

Цяпепр слухайце. Дарогу да Кветкі Шчасьця ведаюць Князь і Княжына лесу, што жывуць у хваёвым замку. Але здарылася бяда вельмі даўно. На замак напаў злы Чорт Маскоўскі. Ён замкнуў

Князя і Княжыну ў склепе пад замкам, а сам з чарцямі нікога не пускае на дарогу да Кветкі Шчасьця. Хто імкнецца – таго забіваюць і ператвараюць у пень. Але ёсьць прадказаньне – Князя і Княжыну вызваляць добрыя дзеці і пагоняць прэч Чарта Маскоўскага. Тады людзі дойдуць да Кветкі Шчасьця і ўбачаць яе. Ці не баіцёся вы?

З ь м і т р о к: – Страшна, але я не баюся.

З о с ь к а і Я н э ч к а: – *(разам)*: – І нам страшна, але мы не баімся Чарта Маскоўскага.

М і к і т к а: – А мне ня стлашна.

К а р а л е в а Н о ч к а: – Добра. Збываецца прадказаньне. Я даю вам вось гэты сьвяты ліхтарык. Як толькі Чорт Маскоўскі кінецца на вас – запаліце яго. Чэрці баяцца ўсяго сьвятога, кукожацца ад сьвятла. Але памятайце: трэба пасьпець, пакуль блішчыць Паўночная зорка.

*(Каралева Ночка ўстае з каменя і зьнікае, раствараецца ў лесе.)*

З ь м і т р о к: – Ну, што, сястрычкі, хадзем Чарта ваяваць!

З о с ь к а: – Хадзем! Але ж і страшна! Ён, пэўне, з рагамі.

М і к і т к а: – А мне ня стлашна. Я пелшы і без ліхталыка пайду. *(Вырывае крапіву.)* – Я яго клапівой, клапівой!

*(Ідзе наперад – усе за ім.)*

Я н э ч к а: – А як прынясем Кветку, от татка з мамкай узрадуюцца! Праўда, Зьмітрок?

З ь м і т р о к: – *(подбегам)*: – Праўда. Хутчэй, хутчэй, во, зорка блішчыць.

З о с ь к а: – Нейкі лес пануры пачаўся.

З ь м і т р о к: – Пэўна, чэрці заселі.

Я н э ч к а: – Ой, як страшна! Мне ногі ня йдуць.

З о с ь к а: – А мне дык у вушах зьвініць.

М і к і т к а: – *(подбегам – першы)* : – А мне ня стлашна.

З о с ь к а: – Чым гэта пахне, Зьмітрок?

З ь м і т р о к: – А нечым смаленым, нібы поўсьць падсмаліць.

Г о л а с: – *(з-за хмызьняка раве)*: – А-а-а, бла-бла-бла, всех бла-бла. А-а-а, бла-бла-бла-бла! Парэшу, бла-бла-бла! Всех, бла-бла-бла. Галды-балды, галды-балды, всех бла-бла-бла!

*(Паказваецца чорны касматы Чорт Маскоўскі з рагамі і з вялікай чырвонай пяціканцовай зоркай на грудзях. Ён кідаецца на дзяцей і раве.)*

– А-а-а, бла-бла-бла, галды-балды, галды-балды, всех. Бла-бла-бла-бла! Всех-всех, бла-бла-бла. Галды-балды, галды-балды...

*(Мікітка заплакаў і кінуўся ўцякаць.)*

Я н э ч к а, З о с ь к а: – А-а-ай. А-а-й, Божачка, ратуй нас!

*(Зьмітрок запальвае ліхтарык. Чорт раве і круціцца на адным месцы.)*

Ч о р т М а с к о ў с к і: – А-а-а, стой! галды-балды, галды-балды, бла-бла-бла. Всех, бла-бла-бла, парэшу. *(Чорт сьціскаецца, падае на зямлю, пачынае дрыгаць нагамі.)* – А-а-а, бла-бла-бла. Врош, бла-бла-бла, врош, бла-бла-бла – не вазьмёш, бла-

бла-бла, агыр-р-р-р. *(Чорт пераварочваецца і ракам, як малпа, падскокваючы, уцякае, крычучы.)* – А-а-а, бла-бла-бла-бла..., галды-балды, галды-балды...

З ь м і т р о к: – Мікітка, ня плач. *(Бярэ яго за руку.)* – Глянь, драпае Чорт Маскоўскі. Але й насмуродзіў, нібы парсюка смалілі.

З о с ь к а: – Сьвяці на яго, гада, Зьмітрок, сьвяці! Цюйга, цюйга, цюйга, нячыстая сіла!

Я н э ч к а: – Цюйга, цюйга, Чорт Маскоўскі, згінь, каб ты здох!

М і к і т к а: – А во, гляньце, што там?

З ь м і т р о к: – Гэта, пэўня, хваёвы замак Князя і Княжыны лесу. Бяжэм вызваляць Князя!

*(У гэты час з замку зноў выскоквае Чорт Маскоўскі зь віламі і раве.)*

Ч о р т М а с к о ў с к і: – А-а-а-а, бла-бла-бла-бла, врош, бла-бла-бла. *(Кідаецца на дзцей. Зьмітрок запальвае ліхтарык. Чорт выпускае вілы з рук, круціцца на месцы, кукожыцца, пырскае сьлінай.)* – А-а-а, бла-бла-бла, всех вас, бла-бла-бла, врош, бла-бла-бла, галды-балды-галды-балды.

*(Уцякае ракам, падскокваючя, як малпа.)*

З о с ь к а, Я н э ч к а, М і к і т к а: – *(разам)*: – Цюйга-цюйга-цюйга! Нячыстая сіла, згінь, згінь, каб ты здох!

З ь м і т р о к: – Бяжэм у замак!

*(Улятаюць у харомы і адчыняюць дзьверы. Выходзяць Князь і Княжына ў бліскучым адзеньні з каронамі на галаве).*

З ь м і т р о к: – Гляньце! Гэта ж наш Князь і Княжына прыгожая. Напэўна, трэба ім пакланіцца? *(Кланяюцца.)*

З о с ьк а: – Не, трэба на калені стаць.

К н я з ь  Л е с у: – Ня трэба, дзеткі. Нашыя продкі беларусы станавіліся на калені толькі перад Богам, а князёў шанавалі і павагу мелі. Бо і князь людзей нашых шанаваць мусіць, і асабліва – дзетак ласкавых.

Цяпер слухайце. Чорт Маскоўскі ня здох, а толькі затаіўся, бо сьвятла баіцца. Будзьце заўсёды са сьвятлом, хадзіце ў сьвятле.

Княжына Лесу пакажа вам шлях да Кветкі. Вунь бачыце, там, наперадзе, дзіўнае сьвятло ў канцы шляху?

Д з е ц і: – Ага, бачым!

К н я ж ы н а: – Там сьвеціцца і прамянее Кветка Шчасьця. Гэта шчасьце для ўсіх нас, для цяперашніх і будучых, і вечных. Яго здабудуць дзеці. Такі запавет.

К н я з ь  Л е с у: – Ідзеце з Княжынай, калі пасьпееце, бо надыходзіць час, калі згасае Паўночная зорка. Сьпяшайцеся.

З ь м і т р о к: – Бяжэм, бяжэм, добрая Княжына! Куды нам бегчы?

К н я ж ы н а: – Ідзеце за мной.

*(Дзеці выбягаюць усьлед за Княжынай.)*

К н я з ь  Л е с у: – *(кажа ўсьлед)*: – калі не пасьпееце, вяртайцеся праз год у гэтую ноч. Ужо 200 гадоў, з году ў год, кожнае пакаленьне ідзе ў гэтую ноч па Кветку – і не пасьпявае. Можа, пасьпееце вы. Толькі не адступайцеся. Ніколі не адступайцеся!

*(Гучыць ціхі гук нацягнутай струны. Патухае Паўночная Зорка. Зьнікае Князь Лесу. Выходзяць разгубленыя дзеці.)*

Я н э ч к а: – А дзе ж яны, дзе? Дзе Князь з Княжынай?

З ь м і т р о к: – Мы не пасьпелі.

З о с ь к а: – Вось яно і так: усё трэба рабіць, пакуль Зорка сьвеціць.

З ь м і т р о к: – Дык жа ўсё й рабілі... *(Янэчка плача.)* – Ня плач. Усё наперадзе. Праз год мы падрасьцем, сьвяты ліхтарык Каралевы Ночкі зьберажэм, пагонім Чарта Маскоўскага і Кветку здабудзем.

З о с ь к а: – Гляньце, сьвітае. Ужо раніца. От, будзе нам лазьня, калі татка з мамкай прыдуць, а нас няма.

З ь м і т р о к: – Бяжэм дахаты.

З о с ь к а: – Але куды? Мы ж заблукалі.

З ь м і т р о к: – Ціха. Чуеце?

*(Чуваць песьня на шмат галасоў „Ой, рана, на Івана”. Песьня набліжаецца, і на паляну выходзіць гурт хлопцаў, дзяўчат, мужчынаў і жанчын. Сярод іх Лявон і Лёня. Убачыўшы дзяцей, кідаюцца да іх.)*

Л ё н я: – А, Божачкі, а Божачкі, а во ж яны, тутака! А, Божачкі, а, Божачкі! Паўночы шукаем, о, Матка Боска! А мае ж вы мае! *(Абдымае дзяцей.)*

У с е: – Ну, во, самы знайшліся. Але артысты! Я вам скажу. Ну, добра яшчэ, што ваўкі ня зьелі. Ха-ха-ха!

Л я в о н: – *(да дзяцей)*: – Дык вы гэта што?

М і к і т к а: – Кветку шукалі.

Л я в о н: – Якую кветку?

Я н э ч к а: – Кветку Шчасьця для таты і для мамы.

Л я в о н: – Ну? Знайшлі?

З ь м і т р о к: – Пакуль што не знайшлі, але ўжо ведаем, дзе шукаць, тата.

Л я в о н: – Ведаеце, дзе?

З о с ь к а: – Ведаем. Праўду кажам.

М і к і т к а: – і я ведаю.

З ь м і т р о к: – Наступным разам знойдзем.

Л я в о н: – Гм... Ну, добра. А цяпер дахаты. Ад шчасьця трэба выспацца.

*(Грамада са сьпевамі адыходзіць. Уздымаецца сонца і асьвятляе лес.)*

(Канец фантасмагорыі)

Чэрвень 2023 г.

# З ь м е с т

## Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. – Нью – Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). – Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 1, артыкулы і матар’ялы (1990 —III.1996). – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 2, артыкулы і матар’ялы (IV.1996—2002). – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн. 3, артыкулы і матар’ялы (2003–2010). – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.

18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). – Варшава, „Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
25. Зянон. Тэрра Дэй. – „Беларускія Ведамасьці”, – Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. – „Беларускія Ведамасьці”, – Warszawa, 2014.
27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). – Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.
28. Зянон. Палын-палын…– Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.
29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,
30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), „Беларускія Ведамасьці”, 2017 г.
31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.
32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.
33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк – Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
34. Зянон Пазьняк. Краявід перад нізінай. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
35. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Разбурэньне. т. IУ, – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2018 г.

36. Зянон Пазьняк: Беларуска-амэрыканская фатаграфія,1 – Новы Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2019 г.
37. Зянон. Інсургенты (п’есы). – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2020 г.
38. Зянон. ГРААЛЬ (п‘есы). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2023 г.

Зянон Станіслававіч Пазьняк

# Г Р А А Л Ь

(П’есы)

*Выданьне і друк коштам аўтара*
*Некамэрцыйнае выданьне*

**Зянон. ГРААЛЬ (П’есы).** Выданьне: «Беларускія Ведамасьці», Варшава, 2023 г., – 104 с. Папера афсэт. Аркуш А4; Фармат А5; 52 друк. арк. Наклад 350 асоб.

**«Грааль»** – гэта зборнік драматычных твораў для прафэсійнага і дзіцячага тэатра і чытаньня на тэмы ідэалёгіі Беларусі і рэлігіі.

ISBN: 978-83-948192-5-5

Тэкст, вокладка, макет – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Кампутарны склад – *Робэрт Стаховіч*
Друк – JJS Group
Наклад – 350 асобнікаў
Папера – афсэтная
Фармат аркуша – А4
Фармат друку – А5
Ул. друк. Арк. – 52
Аддрукавана: у верасьні 2023 г. у Варшаве

ISBN: 978-83-948192-5-5

